PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 2 (2226) Год XLIV Беласток 10 студзеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Ці скарыстаем рэформу?

Вялікімі крокамі набліжаецца рэформа асветы, якая ўвядзе трохступенчатую сістэму абавязковай асветы ў Польшчы: падставовыя школы, гімназіі і ліцэі або прафтэхвучылішчы. Ці мы, беларусы, маем уплыў на яе кшталт, каб захаваць магчымасць навучаць дзяцей роднай мове і знаёміць іх з нацыянальнай культурай? Пакуль цяжка адказаць на гэтае пытанне, паколькі незаўважальна гэта яшчэ ў нашым асяроддзі. Калі праваронім справы рэформы, беларускае школьніцтва апынецца яшчэ ў больш складанай сітуацыі, што можа давесці да рэзкага скарачэння ліку дзяцей, якія будуць вывучаць беларускую мову.

Цяперашні стан беларускага школьніцтва ў нас такі, што толькі ў трох школах дзеці абавязкова вывучаюць родную мову: у гайнаўскім і бельскім ліцэях ды бельскай школе н-р 3. Калі створацца гімназіі, навучанне беларускай мовы ў іх будзе арганізавацца па прынцыпе добраахвотнасці. Тады можа скласціся небяспечная сітуацыя, бо толькі ў трох ліцэйскіх класах будзе абавязак вывучаць родную мову. У падставовых школах не будзе тады матывацыі для наведвання ўрокаў гэтай мовы (далёкая дарога да ліцэя). Гімназісты могуць пачаць навуку ў апошнім класе, рыхтуючыся працягваць адукацыю ў ліцэі з беларускай мовай навучання. Можа тады дайсці да такой сітуацыі, што не будзе ахвотных вучыцца ў ліцэях з беларускай мовай навучання, паколькі гарадская моладзь будзе да яе ставіцца як да замежнай мовы. У такім выпадку замест ліцэяў з беларускай мовай могуць узнікнуць звычайныя ліцэі або застануцца ў іх толькі паасобныя „беларускія” класы. Больш таго, пры непрыхільным стаўленні самаўрадавых улад Беластока да праваслаўных заканчэнне беларускага ліцэя можа стаць перашкодай у кар'еры маладога чалавека (такія галасы часта чуюцца ў беларускіх асяроддзях). Гэта тэма не новая і, мабыць, яна пераўвялічана, паколькі факты наўмысных перашкод маюць характар інцыдэнтаў.

Думаю, што цяперашняя сітуацыя ў школьніцтве сур'ёзная і будзе мець яна свае шматгадовыя паслядоўнасці. Гэтай справай павінны заняцца самаўрады.

Добрым вырашэннем было б стварэнне школьных комплексаў (гімназія + ліцэй) на базе абодвух беларускіх ліцэяў і бельскай „тройкі”. Выкладанне беларускай мовы ў такім комплексе было б абавязковае. Большасць моладзі пасля заканчэння гімназіі працягвала б навуку ў беларускім ліцэі. Школьны комплекс знаходзіўся б у распараджэнні адной дырэкцыі, што давала б магчымасць уздзейнічаць на беларускую моладзь на працягу шасці гадоў навукі з мэтай фарміравання ў моладзі нацыянальнай свядомасці. Каб так сталася патрэбна аб'яднанне ўсіх сіл і дзейнняў вакол рэформы адукацыі ў асяроддзі нацыянальных меншасцей. Як нацыя можам скарыстаць рэформу для сваіх мэт, але можам таксама многае страціць.

Славамір Кулік



Калядоўшчыкі ў вёсках усходняй Беласточчыны яшчэ не зваліся. З такой вось незвычайнай шмат'яруснай звяздой Віця і Лукаш Каляда ды Пятрусь Гаворка калядавалі летась у Кашалях Арлянскай гміны. Фота Міхала Мінцэвіча

# Юбілей БССР

Яўген Мірановіч

**Мінае васьмідзесятая гадавіна ўзнікнення беларускай савецкай дзяржаўнасці. Чаму бальшавікі вырашылі стварыць беларускую дзяржаву, калі нішто іх да гэтага не прымушала? Пытанне гэтае ўжо шмат гадоў ставяць сабе гісторыкі, якія займаюцца вывучэннем навейшай гісторыі Беларусі. Адназначных адказаў пакуль што няма.**

25 сакавіка 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвявіла незалежнасць дзяржавы. У тым часе ўся тэрыторыя Беларусі знаходзілася пад нямецкай акупацыяй. Спробы паразумення ўлад БНР з немцамі прайшлі беспаспяхова. Акупанты дазволілі толькі ствараць адміністрацыйныя, асветныя, культурныя і гаспадарчыя структуры, забаранялі арганізаваць вайсковыя ці паліцэйскія фарміраванні. У кастрычніку прэм'ер-міністрам БНР стаў Антон Луцкевіч, які сарганізаваў яшчэ беларускія дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў 16 краінах Еўропы. Шукаў ён перш за ўсё падтрымкі для беларускай дзяржаўнасці ў Вільні, Варшаве і Кіеве. Нідзе не атрымаў рашучых адказаў. Прыняў тады запрашэнне бальшавіцкага правадыра Леніна на размовы ў Маскву. Невядома які быў ход перамоваў Луцкевіча з Леніным, але, відаць, закончыліся яны нічым па прычыне разыходжання беларускіх нацыянальных інтарэсаў і бальшавіцкіх імперскіх планаў.

Пры канцы лістапада 1918 г. немцы пачалі эвакуіравацца з Беларусі. У Вільню адправіўся ўрад Луцкевіча. 10 снежня Менск заняла Чырвоная Армія. Два дні раней саветы абвявілі ўзнікненне Літоўскай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі, у склад якой мелі ўвайсці ўсе беларускія землі. Хутка, аднак, бальшавікі пакінулі гэтую ідэю, а Цэнтральны камітэт Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) вырашыў стварыць дзве сацыялістычныя дзяржавы — літоўскую і беларускую. 25 снежня камісар па нацыянальных справах Іосіф Сталін і старшыня Паўночна-заходняга абласнога камітэта РКП(б) Аляксандр Мяснікян акрэслілі тэрытарыяльны кшталт абедзвюх дзяржаў. Сталін вырашыў, што Беларусь будуць складаць Гарадзенская, Менская, Віцебская і Смаленская, а Літву — Ковенская і Віленская губерні. 28 снежня тэлеграфічнай дарогай Сталін загадаў далучыць да Беларусі Магілёўшчыну і Гомельшчыну.

У апошніх днях 1918 г. у Смаленску праходзіла IV Канферэнцыя паўночназаходняй вобласці РКП(б). 30 снежня пераўтварылася яна ў I З'езд Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі і абвявіла аб узнікненні Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. 1 студзеня пачаў дзейнасць Часовы рэвалюцыйны работніцка-сялянскі ўрад Беларусі, які выдаў маніфест, заклікаючы народ да змагання з памешчыкамі, буржуазіяй, святарамі, гандлярамі і Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ўвасабляла ўсе гэтыя „эксплуататарскія сілы”. Урад Савецкай Беларусі ўзначаліў беларускі камуніст Зміцер Жылуновіч. Апрача яго членамі гэтага ўрада стала яшчэ 7 камуністаў-беларусаў і 11 расейцаў. Пры канцы студзеня Цэнтральны камітэт Рускай камуністычнай партыі (бальшавікоў) вырашыў абмежаваць тэрыторыю Бела-

[працяг ☞ 2]

## Што трэба зрабіць?

Гайнаўшчыне патрэбны інвестары, якія стварылі б прадпрыемствы згодна з экалагічнымі ўмовамі, бо цяпер з кожным днём большае ў нас беспрацоўных, — гаворыць Вольга РЫГАРОВІЧ, старшыня Рады Гайнаўскага павета. — Я думаю, што блізкасць пушчы павінна памагаць нам развівацца.

[размова ☞ 3]

## Нашы былі ў Катавіцах

З кароткага даведніка, які друкуецца ў „Выразах” польскі чытач атрымае вельмі прыгожы вобраз палітычнага жыцця беларусаў у Польшчы. Напрыклад, падчас ваеннага становішча было „białoruskie antyreżymowe podziemie”, з якога „wysypało się istne mrowie inicjatyw w rodzaju Związku Młodzieży Białoruskiej (licealiści), Zjednoczenia Liberałów Białoruskich, Związku Włościan Białoruskich”.

[з польскага друку ☞ 4]

## Беларуская незалежніцкая партыя

Аўтар кніжкі „Вяртанне БНП” стараўся даказаць, што партыя, якую стварыў Родзька, мела таксама антыгітлераўскі характар, што рабіла стаўку на заходніх альянтаў, але не прадставіў на гэта ніякіх доказаў. Жаўнеры Беларускай краёвай абароны, ці батальёна „Дальвіц”, якія апынуліся ў англа-амерыканскай зоне, не мелі, здаецца, іншага выхаду, як пераконваць пераможцаў у тым, што былі іх прыхільнікамі.

[рэцэнзія ☞ 4]

## Яму прадказвалі бліскучую будучыню

У Пецярбургу Ян Тарасевіч правядзе свае найлепшыя гады жыцця. Яго талент будзе падтрымоўваць Аляксандр Глазуноў. Зразу пасля заканчэння навукі, Тарасевічу, як самаму таленавітаму выпускніку, прапануецца праца ў прыватнай музычнай школе Быстрова.

[штрых да партрэта ☞ 5]

## Ціхвінская ікона Божай Маці ў Браньску

Пратрымала ікона ўсе бурныя падзеі на працягу некалькіх стагоддзяў. У трыццатых гадах цяперашняя стагоддзя царква ў Браньску была разбурана, але ікона захавалася і ўвесь час з'яўляецца апорай „малога статка”.

[нарыс ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Калядны падарунак прэзідэнта беларусам

25 снежня 1998 г. у Маскве прэзідэнты Беларусі і Расіі падпісалі дэкларацыю аб далейшым яднанні двух краін.

Згодна з прынятым дакументам, да сярэдзіны 1999 года будзе распрацаваны і вынесены на ўсенароднае абмеркаванне дагавор аб аб'яднанні Расіі і Беларусі ў саюзную дзяржаву. Плануецца стварыць адзіныя дзяржаўныя органы і нацыянальныя структуры кіравання, сфармаваць адзіны бюджэт, перайсці да агульнай валюты.

За некалькі дзён да 25 снежня пачалася прапагандысцкая кампанія ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Беларусі з мэтай прадставіць будучае аб'яднанне з Расіяй як панацэю ад усіх бедаў, што апошнім часам навалiліся на беларускі народ. Між тым эканамічная сітуацыя не паляпшаецца. Але пра працу штаба, створанага прэзідэнтам для пераадолення крызісу ўжо не згадваецца. З раніцы да вечара па радыё і тэлебачанні гаворыцца пра немінучы росквіт у выніку аднаўлення Саюза, хаця б на першы пачатак Беларусі і Расіі. На думку Аляксандра Лукашэнкі, абедзве дзяржавы павінны ўвайсці ў XXI стагоддзе як „адзінае цэлае". Аднак ён жа падкрэслівае, што Беларусь застаецца паўнапраўным сябрам міжнароднай супольнасці і захавае ўсе правы і абавязкі па міжнародных дамовах, а дэкларацыя выказвае толькі памкненне да саюзнай дзяржавы.

**Зміцер Кісель**

## Лукашэнку хацелі не пусціць у Менск

Вечарам 25 снежня 1998 г., пасля таго, як стала вядома пра падпісанне Аляксандрам Лукашэнкам і Барысам Ельцыным у Маскве дэкларацыі аб стварэнні саюзнай дзяржавы, некалькі дзесяткаў чалавек перакрылі ў Менску праспект імя Францыска Скарыны.

Па ім прэзідэнт Беларусі звычайна едзе з аэрапорта ў сваю рэзідэнцыю пасля сваіх паездак у Маскву. Удзельнікі акцыі пратэсту хацелі не пусціць Лукашэнку ў сталіцу краіны. У руках яны трымалі вялікі транспарант з надпісам „Жыве незалежная Беларусь!". Рух па праспекце быў спынены на паўгадзіны, пасля чаго міліцыя арыштавала дзевяць чалавек.

Дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Валерый Шчукін пасля затрымання быў адпраўлены ў шпіталь. Астатніх восем арыштаваных судзілі 28 снежня 1998 г. Прычым, не ў судах, а ў гарадскім аддзеле міліцыі Камароўскага рынку і ў памяшканні аўтаінспекцыі Савецкага раёна Менска. На думку кіраўніка праваабарончага цэнтра „Вясна-96" Алеся Бяляцкага, гэта было зроблена, каб не дапусціць акцый пратэсту падчас судовага пасяджэння.

Актывіст аргкамітэта „Хартыя-97" Зміцер Бандарэнка, сябры Беларускага народнага фронту Віктар Марозаў і Алесь Карызна былі асуджаны на пяць сутак арышту. Дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Людміла Гразнова і актывістка „Хартыі-97" Галіна Юрына атрымалі па 52 мільёны штрафу, Віктар Фурман і Уладзімір Руснак — па пяць мільёнаў, Любоў Лунёва — папярэджана.

**(зк)**

## Юбілей БССР

[1 ☞ *праця*г]

русі і Віцебскую, Смаленскую і Магілёўскую губерні далучыць да Расіі. Неўзабаве бальшавікі прыйшлі да вываду, што непатрэбнае таксама самое існаванне зменшанай БССР. 16 лютага 1919 г. З'езд саветаў Беларусі прыняў адпаведнае рашэнне. Ад імя „працоўнага беларускага люду" вырашылі ліквідаваць беларускую рэспубліку, а яе землі далучыць да г.зв. Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Літвы і Беларусі (Літбел). Ва ўладах гэтай апошняй не было ніводнага беларуса.

Чаму бальшавікі стваралі ўсе гэтыя чарговыя фіктыўныя дзяржаўнасці? Перш за ўсё экспарт рэвалюцыі ў Еўропу патрабаваў апраўдання лозунга пра самавызначэнне народаў. Пакуль у шматлікіх краінах былі прадстаўніцтвы БНР, уваход Чырвонай Арміі ў Беларусь мог успрымацца як расійская агрэсія. Таму бальшавікі хутка стваралі фіктыўныя ўлады „суверэннай савецкай" Беларусі, якія — згодна з „воляй народа" — маглі вырашаць нават пра ліквідацыю такой дзяржаўнасці. Для Еўропы, куды накіроўвалася Чырвоная Армія, быў аргумент — беларускую дзяржаўнасць ліквідавалі яе суверэнныя ўлады.

У сакавіку 1919 г. саветы стварылі нават Літоўска-беларускую армію, аднак мабілізаваных беларускіх сялян пасылалі на паўднёва-ўсходнія франты ўнутранай вайны. Была, аднак, Літоўска-беларуская армія, якая збіралася ісці ў Еўропу, хаця не служылі ў ёй ні літоўцы, ні беларусы. У ліпені 1920 г. бальшавікі, каб з'яднаць сабе прыхільнасць улад літоўскай рэспублікі (некамуністычнай) падаравалі ім палову Беларусі і ліквідавалі Літбел. На тэрыторыі Міншчыны прывярнулі БССР. У кастрычніку 1920 г. Савецкая Беларусь налічвала 18 паветаў. Пасля падпісання Рыжскага дагавора з палякамі, 12 паветаў аддалі Польшчы. Да 1924 г. беларускую дзяржаўнасць складала толькі 6 паветаў Мінскай губерні.

Калі б не было Беларускай Народнай Рэспублікі, бальшавікі не мелі б ніякіх аргументаў стварыць сваю савецкую дзяржаўнасць. А без БССР, праўдападобна, такое слова як „Беларусь" было б сёння вядомае нешматлікім яе жыхарам.

**Яўген Міраховіч**

# Варшаўскія дні

*(Фрагменты)*

**Заезд**

Пасля замены ў Берасці калёсных параў і праходжання памежнага кантролю цягнік № 9 «Масква — Варшава» паімчаў значна хутчэй, чым па беларускай тэрыторыі, каб дзесьці а дзявятай 30 лістапада быць у Варшаве.

Польская сталіца сустрэла марозам, сняжком і ключамі ад кватэры № 13 аднаго з дамоў на вуліцы Незалежнасці.

(...)

**Зянон Пазьняк**

Праз некалькі дзён пасля майго з'яўлення ў Варшаве знаёмыя паведамілі, што пры жаданні я магу сутрэцца з... Зянонам Пазьняком. У панядзелак, 7 снежня, сустрэча адбылася.

Начуўшыся за два паслятурэмныя гады самых розных чутак, плётак і эпітэтаў, што да палітычнай дзейнасці і асабістых паводзінаў старшыні БНФ, я не без хвалявання ішоў на ўмоўнае месца. Разам з тым інтуіцыя падказвала, што нічога надзвычайнага не адбудзецца. Проста я паздароўкаюся з нармальным беларускім патрыётам.

Так і адбылося. Мы прыселі за стол насупраць адно аднаго, як на перамовах.

Прынеслі каву. Пачалася размова: лаканічная, без асаблівых эмоцыяў з абодвух бакоў. Станіслававіча цікавіла, як там, у турме, што я думаю наконт тых ці іншых падзеяў. Гаварыць мне было досыць лёгка, бо сапраўды меў што сказаць. Пад завяршэнне размовы я, перапрасіўшы, задаў старшыні БНФ пытанне, адказу на якое чакаюць не толькі беларускія патрыёты, але і спецслужбы рэжыму: калі Пазьняк вяртаецца на Радзіму і ці вяртаецца ўвогуле?

Адказ быў прыкладна такім, якога я і чакаў: ён вернецца. І, магчыма, гэта будзе год трох дзясятак.

**Сэнюх**

Вечарам 7-га сустрэўся з Чэславам Сэнюхам, перакладчыкам маіх вершаў на польскую. Прыгожы сталы чалавек, родам з Вялікай Літвы.

Першая сустрэча адбылася за чаркачкай сапліцовай. Гучалі пераклады і арыгіналы вершаў у выкананні аўтараў.

На другі дзень спаткаліся ў кампаніі мастака Артура Клінава, які падзяліўся ідэяй стварэння ў Заходняй Еўропе беларускіх культурных пляцовак — своеасаблівых яўачных кватэраў для нашых літаратараў, мастакоў, музыкаў. Што піці? Піва «Дойлідзі» з беластоцкага бровару.

(...)

**Грамадзяне і паліцыя — за экалогію**

14 снежня, 12 гадзін дня. Каля ўвахода ў гатэль «Марыёт» размясцілася група з дзесяці-пятнаццаці чалавек. Гэта экалагічны пікет, арганізаваны сіламі Польскага экалагічнага клуба і Федэрацыі зялёных. Прысутнічаюць паліцыянты. Дакладней, прадстаўнікі органаў правапарадку за сітуацыяй каля гатэля «Марыёт» назіраюць зводдаль, з аўтамабіля, і не раздражняюць сваёй прысутнасцю пікетоўшчыкаў.

Пікет завяршаецца праз паўгадзіны. Акцыя адбылася. Ніхто не пацярпеў. Я, Куба-анархіст і дзяўчына з групы гарадзенскага Мірона, якая прыехала на варшаўскі канцэрт гурту «NRM», ідзем у «Макабру», каб узяць 0,5 піва гатунку «ЕВ».

**Канферэнцыя «Незалежнасць краін Усходняй Еўропы»**

14 снежня, 15 гадзін дня. Казіміраўскі палац, зала Сената Варшаўскага універсітэта. «Беларуская» частка канферэнцыі. Даклады прачыталі Алег Латышонак і Яўген Міраковіч з Беластоцкага універсітэта, Юры Туронак (Інстытут гісторыі ПАН) і Марэк Карп, дырэктар Цэнтра ўсходніх даследаванняў.

У дыскусіі ўзялі ўдзел сярод іншых публіцыст С. Букчын, А. Анціпенка, была пасол Польшчы ў Беларусі Альжбета Смулкова. На канфэрэнцыі былі заўважаныя гісторык Генадзь Сагановіч і польскі перакладчык Чэслаў Сэнюх, а таксама студэнты і журналісты.

**«Праксіма»**

14 снежня, 20 гадзін вечара. Студэнцкі клуб «Праксіма». Пачалі ўпускаць наведнікаў. Нармальныя эмоцыі, нармальнае піва, нармальная публіка, якая прыйшла паслухаць выступленне беларускага гурту «NRM».

Распачала канцэрт беластоцкая каманда «Дзверы». Спрабуюць спяваць пабеларуску, але атрымоўваецца з вялікім акцэнтам. «Цярпеньне!» — надрываецца маладзенькая чарнявая салістачка, аж хочацца дапамагчы ёй, супакоіць: «Што ты, любачка, мы церпім, ад цябе, такой маладзюсенькай, грудкаватай, спеленькай, мы многае, ой, многае сцерпім. Але не будзем цярпець няволі!.. Толькі гэта ўжо не пра цябе».

Другім выступае гарадзенскі гурт «Кальян». Шчыра кажучы, не зразумеў.

Завяршыла канцэрт «Народная Рэспубліка Мроя». З асаблівым патрыятычным энтузіязмам варшаўскія студэнты сустрэлі рок-маршовую песню «Партызаны».

Застаецца дадаць, што ў клубе, які ўтрымліваюць самі студэнты, паліцыі заўважана не было. Проста яна не мае права без асаблівых прычынаў уваходзіць на тэрыторыю студэнцкіх гарадкоў, якія жывуць паводле дастаткова дзейсных правілаў студэнцкага самакіравання.

Зайшла была выкладчыца беларускай літаратуры — каб паслухаць беларускую песню ды ўбачыць гасцей з Беларусі. Што ж да гаспадароў «Праксімы», дык яны плануюць і надалей запрашаць беларусаў удзельнічаць у арганізацыі супольных імпрэзаў. (...)

**Сталіца**

Пасля побыту ў Вільні ўзору 98-га апанавацца Варшавай я не здолеў. У Варшавы таксама не было шанцаў асляпіць мяне, менчука, бляскам Новага Свету... Сталіца Польшчы засталася пры сваім: сотні тысяч аўтамабіляў, якія надзвычай інтэнсіўна загазоўваюць паветра і штодня ствараюць на шырокіх варшаўскіх вуліцах даўжэзныя заторы; грамадскі транспарт, які спыняе работу за паўгадзіны да поўначы; крамы і пошта, якія ў выхадныя дні пераважна не працуюць; досыць высокая ступень алкагалізацыі насельніцтва; злачыннасць (разбоі, гвалты, забойствы); дрэннае пакрыццё вуліц; нарэшце, дрэнная вада з кранаў (ёсць у Варшаве вежа з больш чыстай вадою, па якую жыхары прылеглых раёнаў цягнуцца з самай раніцы).

(...) Маладыя асабліва любяць насіць заплечнікі. Пры гэтым у грамадскім транспарце торбы з плячэй ніхто не думае здымаць. Так і труцца адзін аб аднаго. Але затое рукі вольныя для карыстаньня «камуркамі» — радыётэлефонамі, якія тут можна браць напракат. Таму салоны грамадскага транспарту часам ператвараюцца ў перасоўныя камутатары-АТС. (...)

**Развітанне**

18 снежня, пятніца. Пяць гадзін вечара паводле варшаўскага часу. У Менску — шэсць. Радыё «Свабода» паведамляе, што Зянон Пазьняк правёў у Парыжы шэраг сустрэч з вядомымі палітыкамі Еўрапейскага Саюза, а таксама двухгадзінную прэс-канферэнцыю для журналістаў. Добрая навіна ў дарогу. Збіраемся. (...)

Цягнік «Варшава — Менск» адыходзіць у 18.47. Сусед пакідае свае рэчы каля маіх і кудысьці знікае. Чакаю, прыпільноўваю торбы. З'яўляюцца жабракі: спачатку малады, потым стары. Малады робіць поўную ходку па арбіце і падыходзіць да мяне другі раз...

Пасля памежнага і мытнага кантролю ў наша купэ заходзіць малады рабочы, ускрывае люк у падлозе і штосьці адкручвае. Пачынаецца замена калёсных параў.

У Беларусі ўласная каляя. Можа, таму я і вяртаюся. **Славамір Адамовіч**

*„Наша ніва", 24 снежня 1998 г.*

# Вырашэнне алкагольных пытанняў

**Сучасны падыход да пытання алкагалізму адмяніў ранейшы тэрмін *барацьба з алкагалізмам* на акрэсленне *вырашэнне алкагольных пытанняў*. Аб гэтай складанай справе з Анеляй ЛУЧАЙ — упаўнаважаным Управы горада Бельска-Падляшскага па справах вырашэння алкагольных пытанняў гутарыць Міхал Мінцэвіч.**

***— У якой ступені змена тэрміналогіі паўплывала на спосаб змагання з алкагалізмам?***

— Цяпер увага экспертаў і дзеячаў засяроджваецца выключна на асобах залежных ад алкаголю і іх сем'ях. Праблемай становіцца таксама празмернае ўжыванне алкаголю, у тым ліку выпіўка ў неадпаведных акалічнасцях, напрыклад, п'янства шафёраў за рулём, цяжарных маці, непаўналетніх, хворых на некаторыя хваробы, працаўнікоў на рабоце. Эксперты сфармулявалі закон г.зв. прэвентыўнага парадоксу, які сцвярджае, што ў кожнай папуляцыі найбольш асоб, якія п'юць памяркоўна і гэта яны ствараюць найбольш алкагольных праблемаў.

***— Якія алкагольныя праблемы лічыце найважнейшымі?***

— Тыя, якія найбольш балюча ўздзейнічаюць на грамадства: алкагольная дэзарганізацыя асяроддзя працы, правапарушэнні ў нецвярозым стане, незаконны абарот алкаголем, некарысныя змены ў структуры спажывання алкагольных напояў.

***— Якія абавязкі для самаўрадавай адміністрацыі вынікаюць з закона аб супрацьдзеянні алкагалізму?***

— У гміне павінна быць распрацавана праграма па вырашэнні алкагольных пытанняў ды створана адмысловая камісія. Гміна мае права браць аплату за выдачу дазволу на продаж алкагольных напояў. Закон забавязвае дзяржаўную адміністрацыю садзейнічаць з самаўрадамі пры вырашэнні праблемаў, якія нясе з сабою алкагалізм.

***— А чым займаецца ўпаўнаважаны па справах вырашэння алкагольных праблемаў?***

— Я перш за ўсё праводжу аналіз алкагольных праблемаў, выконваю прафілактычную праграму, падрыхтаваную гарадской камісіяй і вяду кансультацыйны пункт для асоб, якія пакутуюць ад алкагольнай хваробы. Я з'яўляюся сакратаром гарадской камісіі па справах вырашэння алкагольных праблемаў. Старшынюе ёй бурмістр горада, а ў склад яе ўваходзяць прадстаўнікі паасобных канфесій, аховы здароўя, паліцыі, суда, гарадской стражы, радныя і грамадскія дзеячы. Самая важная справа — гэта ахова сям'і алкаголіка ад насілля. Кожнаму пацыенту і яго сям'іствараецца магчымасць бясплатна пакарыстацца курсам лячэння ад алкагалізму. У Бельску-Падляшскім працуе амбулаторыя для хворых алкагалізмам, у якой з пацыентамі займаюцца спецыялісты псіхолагі.

***— Ці да вас прыходзяць людзі з іншых гмін?***

— Так, прыходзілі пацыенты з навакольных вёсак і я стала падштурхоўваць бельскую гмінную камісію да больш актыўнай працы. Таксама і ў іншых гмінах прыдаліся б у камісіях больш дзейсныя людзі, якія б адчувалі аўтэнтычную патрэбу дапамогі пацярпелым ад алкагалізму. Паводле законаў гмінную камісію прафілактыкі і вырашэння алкагольных пытанняў устанаўлівае рада гміны, а ўпаўнаважанага назначае ўправа гміны. У гміне павінен быць кансультацыйны пункт, а гмінная адміністрацыя павінна забяспечыць грошы на яго дзейнасць.

***— Адкуль бяруцца грошы на ажыццяўленне гміннай праграмы?***

— З гміннага бюджэту і дадатковых крыніц — галоўным чынам з аплат за выдачу дазволу на продаж алкагольных напояў, а таксама ваяводскіх і цэнтральных датацый, ад спонсараў.

***— На якія мэты могуць быць прызначаныя гэтыя грошы? У Орлі гэты фонд не выкарыстоўваецца поўнасцю, а чыноўнікі жартуюць, што найпрацей было б іх прапіць.***

— Грошы ад дазволаў на продаж алкаголю павінны быць прызначаны на прафілактыку. Можна за іх купіць, напрыклад, абсталяванне для кансультацыйнага пункта, паколькі праца з людзьмі павінна весціся ў адпаведных умовах.

***— А як выдаткоўваюцца грошы ў Бельску-Падляшскім?***

— У Бельску фінансавай падтрымкай карыстаюцца кансультацыйны пункт, амбулаторыя, клуб непітушчых. У школах праводзім прафілактычныя мерапрыемствы, у тым ліку конкурсы. Часткова фінансуем мерапрыемствы для дзяцей з паталагічных сем'яў, арганізаваныя канфесійнымі міласэрнымі арганізацыямі. У 1998 г. дапамаглі мы Праваслаўнаму брацтву арганізаваць двухтыднёвы выезд у Варшаву для дзяцей з сем'яў алкаголікаў з тэрыторыі горада Бельска.

***— Дзякую за размову.***

# Што трэба зрабіць?

**Размова з Вольгай РЫГАРОВІЧ, старшынёю Рады Гайнаўскага павета, войтам гміны Гайнаўка.**



***— Як кандыдат у Раду павета, сабралі Вы ў час выбараў найбольш, бо звыш за 1 600 галасоў і сталі старшынёю гэтай Рады. Як бачыце развіццё нашага рэгіёна і на што хацелі б звярнуць увагу ў першую чаргу?***

— Каб развівалася Гайнаўшчына, патрэбны інвестары, якія стварылі б прадпрыемствы згодна з экалагічнымі ўмовамі, бо цяпер з кожным днём большае ў нас беспрацоўных. Я думаю, што блізкасць Белавежскай пушчы не павінна нам перашкаджаць, а павінна памагчы нам развівацца, а разважанні аб Нацыянальным парку павінны быць спалучаны з гаспадарчым развіццём рэгіёна. Карыстаючыся суседствам пушчы, добра было б развіваць і экатурызм, але для гэтага патрэбныя грошы ад дзяржавы на інфраструктуру. Наша суседства з Рэспублікай Беларусь дае нам магчымасць дадатковага гаспадарчага і турыстычнага развіцця, разбудоўвання існуючых і пабудовы новых турыстычных пераходаў. Такі турыстычны пераход можна было б адкрыць у Белавежы або пачаць выкарыстоўваць шырокія чыгуначныя пуці, якія з Беларусі даходзяць аж но ў Гайнаўку. Маёй марай з'яўляецца стварэнне такіх умоў, каб наша моладзь, якая вучыцца ў вышэйшых установах краіны і за яе межамі вярталася на Гайнаўшчыну і ўсё ў добрых умовах маглі працаваць. Што тычыцца першых нашых крокаў, дык трэба будзе прыняць статут павета і правілы, паводле якіх будзем працаваць.

***— Вы ўжо ведаеце памеры бюджэту павета і планаваныя расходы. Ці хопіць сродкаў на нармальную працу гаспадарчых адзінак і на развіццё рэгіёна?***

— Зараз ведаем толькі правізорны бюджэт дасланы нам Міністэрствам фінансаў, які прыняла ўправа павета; чакаем пацвярджэння яго міністрам фінансаў. Цяпер аналізуем таксама сродкі, якія расходваліся Раённай установай на задачы, якія перайм ае павет, пасля параўнаем іх з правізорным бюджэтам. Аднак пераходзяць да нас таксама новыя задачы і будзем ствараць новыя гаспадарчыя ўстановы. Не ведаем патрэбных расходаў на асвету, ахову здароўя, грамадскую апеку і ўправу дарогамі, таму і не зможам зрабіць яшчэ канчатковага аналізу.

***— Ці вядома ўжо штосьці пра новыя ўстановы, якія могуць паўстаць у сувязі са стварэннем павета?***

— Напэўна ўзнікне Асяродак па справах працы і рэабілітацыі інвалідаў, што аблегчыць ім жыццё, бо маючы на месцы асяродак, лягчэй будзе знайсці ім працу ці ўзяць крэдыт. Таксама і ў павятовых установах будзем ствараць ім месцы працы. Што тычыцца іншых установ, то будзем намагацца, каб стварыць суд і казначэйскае ведамства.

***— Ад васьмі гадоў Вы з'яўляецеся войтам Гайнаўскай гміны і былі гэта ў гміне час, калі завяршылася многа інвестыцыяў. Што новага Вы хацелі б зрабіць у гміне, а што можна было б выкарыстаць у працы для павета?***

— Два гады таму закончылі мы будову водаправодаў у гміне даўжынёю каля 150 кіламетраў. Ваду давялі мы да ўсіх вёсак і калёніяў, а не падключыўся толькі той, хто не хацеў. Каб падключэнне вады зрабіць больш даступным для жыхароў, мы ў галоўным фінансавалі інвестыцыі гміннымі сродкамі, а ўплаты гаспадароў у параўнанні да коштаў былі мінімальнымі. Калі давялі мы ваду, паўстала запатрабаванне на каналізацыю і ёсць ужо пачатак, бо за чатыры месяцы пабудавалі ў Старым Беразове і Махнатым каналізацыю і ачышчальню сцёкаў. Гэта толькі першы этап, бо рыхтуем да каналізацыі і наступныя вёскі, але ўсё залежыць ад таго, ці будуць датацыі. Ёсць у нас вопыт таксама ў пабудове дарог, які можна будзе выкарыстаць і ў павеце. За апошнія чатыры гады ў гміне Гайнаўка пабудавалі мы найбольш асфальтных дарог у ваяводстве — каля 20 кіламетраў. Звярталі мы таксама ўвагу і на культуру, бо адрамантавалі клубы ў Барку, Дубінах, Новаберазове і Арэшкаве, пабудавалі новыя ў Старым Беразове, Трывежы, думаем будаваць у Навасадах і разбудоўваць у Новым Корніне. Плануем прыняць на працу інструктараў, якія заняліся б ажыўленнем культурнай дзейнасці. Хутка вучымся, як вырашаць справы падстаўвовага школьніцтва і можна будзе выкарыстаць гэта ў павеце, у сярэднім школьніцтве. Вясною плануем распачаць будову новай школы ў Дубінах. Усе нашы гмінныя школы — гэта школы, дзе вучацца беларусы і будзем надалей старацца развіваць навучанне беларускай мовы. Ужо раней паўстала ў гміне задума, каб спазнаць і спісаць гісторыю нашых вёсак і калі радныя дазволяць, хацелі б сабраць усё гэта і выдаць, каб разам з маладым пакаленнем маглі мы пазнаёміцца з нашай гісторыяй. Што тычыцца павета, дык калі будуць фінансавыя сродкі, то можна было б выдаваць рэгіянальную газету, у якой інфармавалі б аб жыцці нашага рэгіёна і нашай дзейнасці. Супольна з гміннымі ўладамі будзем таксама вырашаць справу Беларускага музея. Думаю, што ўсім нам павінна залежаць на як найхутчэйшым завяршэнні пабудовы Музея, каб ён пачаў дзейнічаць і паказваць багацце нашай культуры. У сваёй працы буду старацца здзейсніць залежныя ад мяне, як запатрабаванні ў адносінах да маёй асобы, так і ўсёй Рады павета.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксей Мароз**

# Куды дзеўся той Дубяжсын?

Мае кантакты з Дубяжынам пачаліся ў пачатках шасцідзесятых гадоў. Прыязджаў я сюды з кінаперасоўкай. Не было ў гэты час электрычнага току. Не было і святліцы. А вёска аграмадная ды багатая была. Людзі саламяныя маты ткалі, у Цэпэлію паставлялі. Нястачы не цярпелі, а культуры прагнулі. На кінафільмы людна прыходзілі. У адзін вечар па некалькі кінасеансаў дэманстраваць трэба было, бо маленькая школьная зала не змяшчала больш як трыццаць чалавек.

Моладзь культурнай цікавілася. Мастацкі калектыў арганізавала. Беларускі тэатральны гурток актыўна дзейнічаў. Ставіліся тут такія п'есы як: „Валодзеў гальштук", „Боты" ці „Прымакі". З пастаноўкамі самадзейнікі выязджалі ў навакольныя вёскі: Крывую, Краснае Сяло ды іншыя мясціны. Іх жыхары, пэўна, дагэтуль памятаюць дубяжынскіх самадзейнікаў. А як дзяўчаты прыгожа спявалі! Іхныя цудоўныя галасы і задушэўныя песні кранalі душу, манілі да сябе.

І прыманілі кінаперасоўшчыка.

У Дубяжыне я знайшоў сабе дзяўчыну. Пазнаёміўся і ажаніўся. Не шкадую зараз таго. Бо пакахаў гэтую вёску і яе жыхароў як родную маці. За яе цягу да роднай мовы, да жывога беларускага слова, якое не толькі ў пастаноўках выказвалася.

Мінулі гады. Змяніліся людзі. Развaліўся беларускі гурток, а яго месца заняла ўкраінская „Родына". І сумна на сэрцы мне робіцца, калі пішу гэтыя словы. І стаўлю неаднойчы пытанне: куды дзеўся даўнейшы Дубяжын з так багатымі беларускімі традыцыямі?

**Уладзімір Сідарук**

# Беларуская незалежніцкая партыя

Пры канцы мінулага года паказалася ў Беларусі кніжка Сяргея Ёрша *Вяртанне БНП. Асобы і дакументы Беларускай незалежніцкай партыі**. Была яна выдадзена недзяржаўным выдавецтвам у рамках праекта „Падтрымка незалежнай выдавецкай дзейнасці ў Беларусі". Яе аўтар, малады гісторык са Слоніма, апублікаваў ужо шмат артыкулаў, прысвечаных антыкамуністычным беларускім арганізацыям і вайсковым фарміраванням падчас II сусветнай вайны. Крыніцай ягоных ведаў найчасцей з'яўляюцца эміграцыйная літаратура і ўспаміны ўдзельнікаў антысавецкага руху.

Змест кніжкі пра Беларускую незалежніцкую партыю складаюць у асноўным успаміны і выказванні яе членаў, а таксама дакументы, адозвы, бюлетэні, якія выдаваліся дзеячамі на эміграцыі. Хаця кніжка прысвечана дзейнасці партыі падчас нямецкай акупацыі, аўтар не распараджаўся ніякімі дакументамі гэтага перыяду. Сяргей Ёрш няўпэўнены ў тым калі ўзнікла БНП, хаця большасць яго суразмоўцаў, былых дзеячаў, гаварыла пра чэрвень-ліпень 1942 г. Эміграцыйны гісторык Вацлаў Пануцэвіч шмат гадоў прапагандуе думку, што беларускія палітыкі нацыянальнага накірунку, пакуль пачалі супрацоўнічаць з немцамі, мелі ўжо канцэпцыю выкарыстання акупантаў для пабудовы незалежнай беларускай дзяржаўнасці, а іх лаяльнасць да гітлераўцаў мела толькі тактычны характар. Таму БНП мела — паводле Пануцэвіча — існаваць ужо ад 1939 г. Здаецца, што падзяляе гэты пункт гледжання і аўтар кніжкі.

Беларускую незалежніцкую партыю стварылі маладыя дзеячы палітычнага лагера, які ад пачатку вайны рабіў стаўку на гітлераўскую Нямеччыну. Узначальваў іх 22-гадовы Усевалад Родзька. Сярод членаў цэнтральнага кіраўніцтва былі Мікола Шкялёнак, Юльян Саковіч, Міхал Рагуля і Антон Адамовіч. Усе яны працавалі ў нямецкай адміністрацыі ці паліцэйскіх фарміраваннях, усе супрацоўнічалі з нямецкай контрразведкай — абверай. Паводле кніжкі Сяргея Ёрша, стварылі яны антыкамуністычную і адначасова антыфашысцкую арганізацыю, без ведама і дазволу немцаў. Сяброўства з акупантамі планавалі яны выкарыстаць дзеля ўзбраення беларускіх вайсковых фарміраванняў, якія мелі быць пад кантролем БНП і ў адпаведны момант выкарыстаныя ў змаганні за незалежнасць Беларусі. Магчыма, што такі падыход да існуючага палітычнага стану, як найбольш згодны з беларускім нацыянальным інтарэсам, планаваў ксёндз Вінцук Гадлеўскі, але яго незалежніцкая дзейнасць скончылася ў падвалах мінскага гестапа. Магчыма таксама, што сярод радавых членаў існавала перакананне, што структура, якую яны стварылі, з'яўляецца не толькі антысавецкай, але таксама калі не антынямецкай, тады прынамсі непадпарадкаванай акупацыйным уладам.

Безумоўна, большасць герояў кніжкі Ёрша была беларускімі патрыётамі і хацела змагацца за свабодную Бацькаўшчыну, але цяжка было ім гэта рабіць у якасці нямецкіх саюзнікаў і ў нямецкіх формах, і тады, калі гітлераўцы палілі беларускія вёскі і расстрэльвалі мірнае насельніцтва. Які нацыяналіст мог спакойна сцярпець пастаянны здзек акупантаў над сваім народам. Таму арганізацыя накшталт БНП, якая ў свядомасці яе членаў існавала як сіла незалежная ад эсэсаўцаў і гестапаўцаў, давала нейкае самаапраўданне маладым людзям і дазваляла верыць, што робяць нешта станоўчае для будучыні Беларусі. Праўдападобна, аднак, пад кантролем абверы стваралася дыверсійная антысавецкая арганізацыя, якая мела пачаць дзейнасць пасля адыходу нямецкай арміі з Беларусі. Сведчыць аб гэтым перш за ўсё тое, што БНП пачала ў сапраўднасці дзейнасць летам 1944 г. Тады паказаліся першыя бюлетэні партыі, якіх змест заклікаў беларусаў да змагання з бальшавікамі, але таксама крытычна ацэньваў палітыку нямецкіх акупацыйных улад. Немцы маглі, аднак, спакойна глядзець на гэтую крытыку таму, што адыходзілі з Беларусі, а саюзнікі з БНП станавіліся такім чынам больш верагоднымі ў вачах беларусаў. У той самы час у мястэчку Дальвіц ва Усходняй Прусіі быў сарганізаваны лагер для беларускіх вайскоўцаў, якога кіраўніком стаў Усевалад Родзька. Сярод курсантаў апынуліся амаль усе сябры БНП. Ці магло гэта быць звычайным супадзеннем?

Аўтар кніжкі стараўся даказаць, што партыя, якую стварыў Родзька, мела таксама антыгітлераўскі характар, што рабіла стаўку на заходніх альянтаў, але не прадставіў на гэта ніякіх доказаў. Пасляваенная эміграцыйная прапаганда не з'яўляецца найлепшай крыніцай ведаў пра БНП. Жаўнеры Беларускай краёвай абароны, ці батальёна „Дальвіц", якія апынуліся ў англа-амерыканскай зоне, не мелі, здаецца, іншага выхаду, як пераконваць пераможцаў у тым, што заўсёды былі іх прыхільнікамі.

Сяргей Ёрш, сабраўшы выказванні ўдзельнікаў антысавецкага беларускага руху, зрабіў вялікі ўклад у галіне ўзбагачэння ведаў пра гісторыю Беларусі ваеннага і пасляваеннага перыядаў. У краіне, дзе ў гістарыяграфіі дамінуе толькі адзін — савецкі — пункт гледжання на нядаўнюю мінуўшчыну, кожная публікацыя, якая прадстаўляе тую рэчаіснасць з іншага боку, мае значную вартасць. Пакуль што, аднак, у Беларусі няма добрай навуковай літаратуры, якая без ідэалагічнага кантэксту прыблізіла б час II сусветнай вайны сучаснаму чалавеку. Што горшае, няма літаратуры па навейшай гісторыі, якая не была б створана на аснове савецкай метадалогіі, і з савецкага, не беларускага, пункту гледжання. Нішто не паказвае, што ў найбліжэйшы час такая літаратура ўзнікне.

**Яўген Міранові**ч

*С. Ёрш, *Вяртанне БНП. Асобы і дакументы Беларускай незалежніцкай партыі*, Слонім—Менск 1998, сс. 186, выд. Архіў найноўшае гісторыі.

# Нашы былі ў Катавіцах

Нядаўна нехта даслаў нам у рэдакцыю літаратурны часопіс „Wyrazy"*, які выдаецца ў Катавіцах. У дасланым 7-8 нумары нашу ўвагу прыцягнуў змест дыскусіі пра нацыянальныя меншасці ў Польшчы з удзелам, між іншым, Юзэфа Гэна, Паўла Спевака, Анны Татаркевіч, Міхала Ягелы і нашых інтэлектуалаў — Сакрата Яновіча, Лявона Тарасэвіча і Юры Хмялеўскага. Прачытаўшы стэнаграму дыскусіі мы дайшлі да вываду, што ў рэдакцыі „Выразаў" па нейкіх прычынах не любяць беларусаў. Складаецца ўражанне, што некаму проста захацелася скампраметаваць рэдактара элітарнага нашага часопіса Юры Хмялеўскага і славутага мастака, прафесара Лявона Тарасэвіча. Прыкра толькі, што на фоне польскіх інтэлектуалаў нашы адрозніваюцца так страшэнна адмоўным стылем сваіх выступленняў.

Юры Хмялеўскаму рэдактары „Выразаў" пэўна падкарацілі ягонае выказванне, таму што паводле змешчанага ў стэнаграме тэксту вынікае, што жыхары Беласточчыны, а асабліва Гарадоцкай зямлі нацыянальную адукацыю атрымоўвалі на падставе „Mużyckaj Prawdy", якую выдаваў „Kastusz Kalinołski". Пасля была яшчэ віленская „Наша ніва", а пасля доўга-доўга не было нічога, пакуль не з'явіўся „Czasopis" і „Charadockie Nowiny". Не можам паверыць, што рэдактар „Гарадоцкіх навін" мог забыць, ці не ведаць пра тое, што ў гэтым стагоддзі ў Гарадок траплялі яшчэ і такія газеты як, напрыклад, „Адозва", „Бацькаўшчына", „Беларускае слова", „Беларуская думка", „Беларускі народ", „Беларускі партызан", „Лесаруб у барацьбе", „Селянская гутарка", „Новая дарога", а „Нівай" там яшчэ да гэтай пары абгортваюць расаду памідораў. Названыя часопісы выдаваліся ў Беластоку і Гародні, а ў кожным з іх змяшчаліся часам карэспандэнцыі чытачоў з Гарадка ці Гарадоцкай зямлі. Мы перакананы, што нехта ў рэдакцыі „Выразаў" не толькі зрабіў закалот у змесце выказвання нашага калегі па прафесіі, але і таксама склаў яе на мове... падобнай да польскай.

Сапраўдны здзек катавіцкае выдавецтва ўчыніла над прафесарам Лявонам Тарасэвічам. Без ніякай рэдакцыйнай апрацоўкі апублікавалі яны выказванне славутага мастака і атрымалася нейкае моўнае дзівацтва, дзе цяжка дашукацца якога-небудзь сэнсу. „Proszę państwa, — гаварыў быццам бы Л. Тарасэвіч, — jak za starych czasów na weselach czuje się, ale spróbuję. Od momentu jak samorządy mogły powstawać same i w Gródku okazało się, że na 20 mandatów radnych 17 jest to Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne co tak się wszyscy bronili i w prasie, żeby tylko nie podawać to byla możliwość sformułowania własnego jakiegoś ideału życia, w tamtym czasie ja byłem przewodniczącym BDA czyli podwładnym Sokrata na froncie i jak tylko to się dało próbowaliśmy zrobić gazetę, ale okazało się, że jesteśmy w stanie oplakanym tam w Gródku, bo ten Gródek, gniazdo w sumie cywilizacji, gniazdo Chodkiewiczów to nawet Stryjkowski pisze, że pisze historię Polski na podstawie dwóch lat opisu ze skarbca z Gródka, pierwszy druk pisany Ewangelia Zabłudowska na terenie 568-9 czy później próby poetów, którzy pisali, okazuje się nikt o tym nie wie". У такі спосаб службы бяспекі ў ваеннае становішча публікавалі толькі выказванні Леха Валэнсы. Не знаходзім аднак ніякай рацыянальнай прычыны дзеля якой, без рэдактарскай і стылістычнай апрацоўкі, друкуюцца роздумы беларускага дзеяча з Гарадка.

З усёй гэтай гісторыі найбольш сумнае тое, што культура беларускай меншасці прадстаўляецца польскаму чытачу ў форме, якая — магчыма выпадкова — ідэальна ўпісваецца ў кантэкст публіцыстыкі пра нашых суродзічаў з Рэспублікі Беларусь. Такім чынам замацоўваецца вобраз беларусаў як нейкага асаблівага — у адмоўным сэнсе — народа ў Еўропе. Часопіс „Выразы" накіраваны да незвычайнага чытача. Неафіцыйна ведаем, што гэты нумар атрымала шмат літаратурна-культурных устаноў ва ўсёй Польшчы.

З кароткага даведніка, які друкуецца ў „Выразах" (с. 99-100) польскі чытач атрымае, аднак, вельмі прыгожы вобраз культурнага і палітычнага жыцця беларусаў у Польшчы. Маем напрыклад „plejadę znanych i cenionych w Europie pisarzy", падчас ваеннага становішча было „białoruskie antyreżymowe podziemie", з якога „wysypało się istne mrowie inicjatyw w rodzaju Związku Młodzieży Białoruskiej (licealiści), Zjednoczenia Liberałów Białoruskich, Związku Włościan Białoruskich". Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне „udanie wygrywa wybory samorządowe". Гэты апошні сказ найбольш блізкі праўдзе. Трэба толькі дапоўніць яго пару словамі. Напрыклад: „Działacze BZD udanie wygrywają wybory samorządowe startując z list SLD".

**(ям)**

*„Wyrazy. Kwartalnik Humanistyczny", nr 7-8, 1998.

# Пра манастыры

Два існуючыя сёння ў Польшчы праваслаўныя мужчынскія манастыры, Дабравешчанскі ў Супраслі і Свята-Ануфрыеўскі ў Яблачыне адзначалі летась сваё 500-годдзе. Гэта, аднак, не адзіныя ў мінулым цэнтры манаскага жыцця на Падляшшы і ў бліжэйшай ваколіцы (Супрасль, як і Заблудаў, былі па-за Падляшскім ваяводствам). І нават не найстарэйшыя. Можна гэта даведацца з новай кнігі прафесара Антона Мірановіча „Манаскае жыццё на Падляшшы"*.

„Манастыры ў Праваслаўнай царкве, гэта галоўныя цэнтры рэлігійнага жыцця, — піша аўтар ва ўступе да кніжкі. — З манахаў выбіралася царкоўная іерархія. Манастыры ігралі важную культурастваральную ролю, фармавалі мараль вернікаў. Іх духоўнасць ззяла на вялікіх прасторах даўняй Рэчы Паспалітай".

На кніжку складаюцца восем манаграфій пра паасобныя манастыры: успомненыя супрасльскі і яблачынскі, Свята-Мікалаеўскі ў Бельску, Праабражэнскі ў Драгічыне (два самыя старэйшыя), Свята-Троіцкі ў Драгічыне, Успенскі ў Заблудаве, манастыр Ушэсця Гасподняга ў Нарваўскай пушчы і манастыр ў Дакудаве каля Белай (сёння Белай-Падляшскай). Манаграфіі розныя па сваім аб'ёме і па фактаграфіі. Так як і гэтыя манастыры ігралі ў гісторыі розныя ролі і неаднолькавая колькасць крыніц пасля іх засталася.

Несумненна, найбольшае рэлігійнае і культурнае значэнне меў супрасльскі Дабравешчанскі манастыр. Яго гісторыя багата дакументаваная пісьмовымі крыніцамі. Але ўжо ўзнікненне невялікага манастыра Ушэсця ў Нарваўскай пушчы гісторыкі апісваюць з дапамогай легенд. А наконт месца, у якім ён стаяў, існуюць розныя гіпотэзы. Прафесар Міранові піша, што лакалізацыю манастыра можна звязваць з урочышчамі Жураўлік, Манастыр і Крыначка каля вёскі Адрынкі.

Яшчэ менш ведаем пра манастыр у Дакудаве, якога нават імя не захавалася. Сёння гэта чыста каталіцкая ваколіца з пераважна прыезджым насельніцтвам, памяць якога сягае найдалей апошняй вайны і першых пасляваенных гадоў.

Прафесар Антон Міранові апісвае кожны манастыр настолькі, наколькі дазваляюць на гэта захаваныя дакументы і ранейшыя працы гісторыкаў. Аповед у большасці манаграфій спыняецца ў пачатку XIX стагоддзя, калі гэтыя манастыры перасталі існаваць. Аўтар абяцае, што манаскаму жыццю на Беласточчыне ў XIX і XX ст.ст. прысвяціць наступную сваю працу. Можна было б пажадаць, каб, як усе салідныя навуковыя распрацоўкі, канчалася яна імянным і геаграфічным паказальнікамі і была ўзбагачана картамі, здымкамі, рысункамі.

**М. В.**

*Antoni Mironowicz, *Życie monastyczne na Podlasiu*, Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Białystok 1998.

# Яму прадказвалі бліскучую будучыню

Увага, чытачы! Вашай увазе прапануецца навагодні конкурс. Калі ласка, ***назавіце твор Яна Тарасевіча, прысвечаны жыхарам Саколкі.*** Аўтараў правільных адказаў чакаюць цікавыя ўзнагароды — экскурсіі на трапічныя астравы. Ніжэй вашай увазе прапануецца кароткі нарыс пра жыццё і творчасць Яна Тарасевіча, геніяльнага педагога, піяніста і кампазітара.

**Сам навучыўся іграць на раялі**

Нарадзіўся наш герой, як Янка Купала і Якуб Колас, у 80-ыя гады мінулага стагоддзя. У адрозненні ад класікаў беларускай літаратуры, атрымаў шляхецкае выхаванне і адукацыю. Бацька, Аляксей Тарасевіч, дваранін Гродзенскай губерні, быў царскім падпалкоўнікам і героем руска-турэцкай вайны. Маці паходзіла са старога шляхецкага гнязда, роду Кушаляў, тых самых, пра якіх успамінае Генрык Сянкевіч у „Ogniem i mieczem”. З увагі на вайсковую прафесію бацькі, сям'я Тарасевічаў часта мяняла месца пражывання. Будучы кампазітар назаве такія гарады свайго дзяцінства: Саколка, Ломжа, Пскоў, Старая Русса. Знаёмства і захапленне музыкай пачнецца ў раннім дзяцінстве. Янка сам навучыцца іграць на раялі. Ён проста прыслухоўваецца ўрокам музыкі старэйшай сястры, якую вучыць гувернантка. Не ведаючы нотнага запісу сам пачынае кампанаваць „творы”. Бацькі радуюцца музычным захапленнем малечы, наймаюць яму настаўніцу музыкі. У восем гадоў Янку Тарасевіча будуць называць вундэркіндам. А два гады пазней ён сам з памяці зайграе вальсы Шапэна і Другую рапсодыю Ліста.

**Праследавалі сямейныя трагедыі**

Шчаслівае дзяцінства абрываецца быццам у кашмарным сне. На сёмым годзе жыцця Янка астаецца кругам сіратой. Найперш памірае ад рака маці. Два тыдні пазней скончыцца ад роспачы бацька: памрэ ў цягніку, вяртаючыся з пахавін жонкі. Асірацелымі дзецьмі — Янам, Ганнай і Сцяпанам — заапякуецца Леакадзія Улазоўская, стрыечная сястра маці з падсакольскага маёнтка Шындзель. Яна задбае пра адукацыю і выхаванне сваіх прыёмных дзяцей. На дзесятым годзе жыцця адправяць Янку, услед за яго старэйшым братам, у Полацкі кадэцкі корпус. Але закаханы ў музыку юнак не рашыцца на вайсковую кар'еру. Зразу пасля заканчэння школы падасца ён у Пецярбург і стане студэнтам кансерваторыі. Сямейныя трагедыі далей будуць праследаваць маладога піяніста. Найперш утопіцца ў Сакалдзе брат Сцяпан. Пасля памрэ любімы дзядзька, экс-губернатар Гродна, Нічыпар Улазоўскі.

**Яму прадказвалі бліскучую будучыню**

У Пецярбургу Ян Тарасевіч правядзе свае найлепшыя гады жыцця. Яго талент будзе падтрымоўваць Аляксандр Глазуноў, па рэкамендацыі якога выдавецтва Юргенсана надрукуе фартэпіянныя творы. Зразу пасля заканчэння навукі Тарасевічу, як самаму таленавітаму выпускніку, вучню прафесара Абрамыча (вялікага сябры Чайкоўскага), прапануецца праца ў прыватнай музычнай школе Быстрова. Шындзельскі музыкант адначасна дасканаліцца ў галіне кампазіцыі. Зноў паступае ў кансерваторыю, гэтым разам на аддзяленне кампазіцыі да прафесара Віталя. Пад яго ўплывам, у прыватнасці пачынальніка латышскай нацыянальнай музычнай школы, Тарасевіч зглыбляе беларускую народную музыку. Да канца жыцця астаецца верны ідэалам маладосці.

Не менш паспяхова расце і развіваецца яго слава як піяніста. Сваіх паклоннікаў знойдзе ён аж на царскім двары. У час першай сусветнай вайны, яго як любімага музыканта князёўны Марыі закватаруюць у Зімовым палацы. Такім чынам знойдзецца ён у цэнтры найважнейшай падзеі XX стагоддзя. Будзе прыглядацца, як бальшавікі ўрываюцца ў царскі палац і нішчаць мэблю, паркеты і карціны. Яго бліскучую пецярбургскую кар'еру таксама жорстка перапыніць рэвалюцыя. Ратуючы жыццё, тайком вяртаецца на радзіму. Неўзабаве адсячэ яго ад свету поспехаў дзяржаўная мяжа. Сакольшчына апынецца ў новай дзяржаве — Польшчы.

**Не дачакаўся прызнання**

Усё далейшае жыццё Ян Тарасевіч прысвеціць музыцы. Будзе кампанаваць у шуфляду, вучыць ігры на раялі ў Саколцы, Гародні і Беластоку. Як першы напіша музыку на словы беларускіх паэтаў-адраджэнцаў: Максіма Багдановіча, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа. Усё жыццё будзе лічыць сябе беларускім кампазітарам.

На жаль, у міжваеннай Польшчы, а пасля пры народнай уладзе, ягоная творчасць нікому не спатрэбілася. Свайго таленту, прызнанага сусветнай вядомасці настаўнікамі А. Глазуновым, Я. Віталем не мог рэалізаваць у Савецкай Беларусі. Там, як вядома, знішчалі самых выдатных сыноў. Ян Тарасевіч выжыў, але заплаціў за гэта поўнай невядомасцю. Апошні перыяд жыцця правёў ён у Беластоку. Памёр у ліпені 1961 года, у самоце і нэндзы. Яго магіла знаходзіцца на праваслаўных могілках у Саколцы. Ян Тарасевіч пакінуў па сабе 111 фартэпіянных твораў. Ягоным вучнем з'яўляецца сусветнай вядомасці дырыжор і кампазітар Ежы Максымюк. Як чалавек Ян Тарасевіч пакінуў па сабе добрую славу.

— Гэта быў вельмі добры чалавек, — заўсёды адзначалі яго вучні і знаёмыя ў пачатку размовы.

**Вяртаючыся да конкурсу**

Дарэмна шукаць якіх-колечы вестак пра Яна Тарасевіча ў беларускай энцыклапедыі. У Беларусі не хапае сродкаў на выданне хаця б аднаго запісу на кампакт-дыску або хаця б на сціплай аўдыёкасеце, без якой цяжка гаварыць пра творчасць. З-за фінансавага недахопу не можа пабачыць свету і біяграфічная кніжка, падрыхтаваная самым яркім талентам музычнай сцэны Беларусі Віктарам Скарабагатавым.

Абурае ўсё гэта! Як вядома, беларускія ўлады не шкадуюць долараў на святкаванне году Міцкевіча. Неўзабаве будзе святкавацца год Пушкіна.

Даруйце, шаноўныя, „пластмасавы” ўступ. Палічыце яго ласкавым жартам і рэкламай артыкула. Вяртаючыся да пытання: Ян Тарасевіч прысвяціў жыхарам Саколкі твор пад загалоўкам „Вальс банальны”.

**Ганна Кандрацюк**

# Калядны падарунак дзецям




Пад канец снежня выйшла з друку трэцяя публікацыя гайнаўскага выдавецтва „Братчык” на беларускай мове. Гэтым разам адрасавана яна дзецям і расказвае пра нараджэнне Ісуса Хрыста. У ёй на шаснаццаці старонках багата ўпрыгожаных каляровымі малюнкамі юныя чытачы даведаюцца як „у маленькім гарадку Віфлееме сышоў з нябёс і нарадзіўся з цела Прасвятой Дзевы Марыі Госпад наш, Уладар і Бог — Ісус Хрыстос”. Апавяданне пра нараджэнне Хрыстовае канчаецца на ўцёках Іосіфа і Марыі з маленькім Дзіцём у Егіпет пасля таго, як Іосіфу ў сне з'явіўся Анёл і папярэдзіў аб небяспецы, якая чакае Ісуса Хрыста з боку злачыннага цара Ірада.

Кніжачку „Расказ пра нараджэнне Ісуса Хрыста”, якую на беларускую мову пераклаў Аляксей Мароз, можна купіць у нашай рэдакцыі. Можна яе таксама заказаць у выдаўца па адрасе: „Bratczyk”, 17-200 Hajnówka, ul. Mazurska 14, tel./fax 6822565 (konto: PBK SA O/Hajnówka nr 11101170-4659-2700-1-12).

**(вл)**

# Дэкламатарскі конкурс

16 снежня 1998 г. у Гмінным асяродку культуры ў Нарве адбываліся гмінныя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова”, у якім прымалі ўдзел вучні падставовых школ. Вучні, якія дэкламавалі беларускія вершы і прозу, залежна ад узросту падзелены былі на тры катэгорыі. Сярод 39 удзельнікаў з чатырох школ камісія вылучыла 18 вучняў, якія паедуць на раённыя элімінацыі. У катэгорыі наймалодшых вучняў найлепш дэкламавалі: Магдалена Дудзіч з Ласінкі (I месца), Юстына Асіпюк (I месца), Іаанна Купай з Нарвы (II месца), Іаанна Нікановіч з Нарвы (II месца), Павел Чэга з Трасцянкі (III месца), Павел Шышкевіч з Нарвы (III месца) і Барбара Грынявіцкая з Нарвы (III месца). У катэгорыі вучняў з класаў IV-V камісія вылучыла: Віялету Ляшчынскую з Нарвы (I месца), Анну Іванюк з Нарвы (II месца), Анну Дудзіч з Ласінкі (II месца), Міраславу Ахрымюк з Крыўца (III месца), Анджэліну Ляшчынскую з Нарвы (III месца) і Агату Капейчык з Нарвы. Сярод найстарэйшых вучняў (VI-VIII кл.) да наступнага этапу перайшлі: Паўліна Пашко з Ласінкі (I месца), Бэата Міньха з Ласінкі (II месца), Наталля Кос з Ласінкі (II месца), Анэта Яканюк з Нарвы (III месца) і Кацярына Вэнцка з Крыўца (III месца).

Усе ўдзельнікі атрымалі дыпломы і кніжныя ўзнагароды, якія ўстанавіў беларускі музей у Гайнаўцы.

— Узровень дэкламатараў быў высокі, вучні звярталі ўвагу на патрэбныя дэталі, а матэрыял наогул падабраны быў трапна, залежна ад узросту. У мінулых гадах і ў цэнтральных этапах конкурсу „Роднае слова” вучні гміны Нарва займалі добрыя месцы, — кажа настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Ян Карчэўскі, старшыня журы, у якое ўваходзілі яшчэ журналіст Ян Целушэцкі і бібліятэкар з Беларускага музея Наталля Герасімюк. — Вельмі добра, што кожны ўдзельнік быў заўважаны. Для дашкольнікаў і вучняў першых класаў, якія яшчэ не вучыцца беларускай мове, а прыйшлі дэкламаваць вершы, дыпломы і беларускія кніжкі — гэта вельмі важная памятка, якая заахвоціць да дэкламацыі і ў будучыні.

**Аляксей Мароз**

У тэатры

# Мілая ініцыятыва для праваслаўных

Сёлета Беластоцкі тэатр імя Аляксандра Вянгеркі вырашыў даць спецыяльны спектакль з так званым „бакалам шампанскага” ў канун Новага года па старым стылі.

Не кожны хоча і не заўсёды можа пайсці ў гэты дзень на вялікі баль, якіх арганізуецца ў нас нямала. Адзін — ужо стары, другі не мае лішніх грошай. Тэатр стварае для гэтых людзей нагоду, каб не адчуваць сябе ў гэты вечар самотным, сустрэцца з людзьмі і падыхаць атмасферай тэатра, а да таго з традыцыйным шампанскім у часе вялікага антракта. Цана білета на спектакль — 12 злотых.

Спектакль Эдварда Олбі „Тры высокія кабеты” будзе пастаўлены 13 студзеня 1999 года а 19-ай гадзіне на камернай сцэне. Шматрэфлексійны, а адначасова поўны гумару і забавы, ён прымушае задумацца над сэнсам існавання, над чалавечым жыццём, якое прамінае так хутка, над старасцю, якая не міне нікога, над тым, што мо варта ў жыцці звяртаць больш увагі на тое, на што мы наогул яе не звяртаем. Адным словам, спектакль надта актуальны на парозе Новага года.

Усіх праваслаўных, ды і не толькі, тэатр сардэчна запрашае.

**Ада Чачуга**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## *Даў нам надзею на жыццё вечнае*

*Хлопчыкі з беларускага прадшколля ў Беластоку падрыхтавалі пад святы кветку-Каляду са збожжа, якую ставяць у покуці (святым кутку).* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Сёння зноў асмелюся Вас, шаноўныя чытачы „Зоркі”, пазнаёміць са святочнай карткай з нашага сямейнага дзённіка.

Пачаўся, як вядома, час святочных падрыхтовак. Мая мама рашыла, што ў гэтым годзе мы салідна падрыхтуемся да Каляд і будзем за сталом спяваць калядкі. Я ўзяла гэтую парапанову не да канца ўсур’ёз. Аднак хутка высветлілася, што я памылялася. І так ужо на другі вечар сядзела я ў акустычным пакойчыку і мучылася (намнога болей як калісьці нашы вясковыя продкі ў жніва), слухаючы спеваў маёй сяструні і мамы. Бацька збянтэжыўся пачуўшы першыя спробы нашага трыо. Пасля трох вечараў мы ўсё ж скемілі, што наша спяванне не дае нам поўнай радасці. Мы зразумелі, што сённяшнія Каляды для нас хутчэй асацыююцца з падаркамі, ёлкай і святым Мікалаем (сведчыць аб гэтым апытальнік маіх сяброў). І забываем пра найважнейшае. Не, не маю на думцы старых звычаяў, толькі ідэю Каляд. Занятыя падрыхтоўкай святочнай ежы, прыбіраннем і ўпрыгожваннем хаты, думаем пра святкаванне і свае асабістыя радасці.

А найважнейшае тое, што Каляды святкуем на памятку нараджэння Ісуса Хрыста, які даў нам надзею на жыццё вечнае.

**Жанэта Роля**

**Адгалоскі**

## *Ці сапраўды „tajemniczy język”*

Наша родная мова, пераказаная нашымі дзядамі, гэта незнішчальны скарб, які мы, маладое пакаленне, павінны берагчы.

Нашы вёскі заміраюць. У 70-80-х гадах маладыя людзі з вёсак масава прыязджалі ў горад па волі сваіх бацькоў, якія хацелі, каб іх дзеці не працавалі больш на гаспадарках. Перасталі з дзецьмі гаварыць на той „таемнай мове”, думаючы тым самым, што палегчаць ім старт у дарослае жыццё.

Частка вучняў з нашага класа таксама навучылася ў дзяцінстве толькі польскай мовы. Калі ў пачатковую школу ў Дубічах-Царкоўных прыйшлі вучыцца дзеці з Грабаўца, якія вельмі добра валодалі „таемнай мовай”, ці гэта нам стала сорамна, ці можа нам спадабалася мова дзядоў, бо цэлы клас стаў гаварыць на дыялекце.

Нам здаецца, што ў нашай школе назіраецца вяртанне да мовы нашых бацькоў. Малодшыя дзеці пачынаюць гаварыць па-свойму.

Наша аднакласніца Крыся Шчэрба з Белавежы піша ў 39 н-ры „Нівы”, што ніколі раней не чула, каб маладыя людзі гаварылі па-беларуску.

З гэтага вынікае, што наша сяброўка мала ведае Беласточчыну, хаця Белавежа гэта адзін з цэнтраў нашай культуры. Тут адбываецца між іншым „Купалле”...

Мы ў школе ахвотна размаўляем на дыялекце. Прымаем удзел у розных мерапрыемствах, якія арганізуе БГКТ і „Зорка”. Несумненна, многае залежыць ад нашых бацькоў, але яшчэ больш ад асяроддзя, у якім мы прабываем.

Калі б Крыся Шчэрба не апынулася на Сустрэчах „Зоркі”, можа ніколі не задумалася б, адкуль яе род.

Вельмі мудра напісаў Уладзімір Караткевіч: „Хто забыў сваіх продкаў — сябе губляе. Хто забыў сваю мову — усё згубіў”.

Ці мы, маладыя людзі, хочам загубіцца ў гэтым свеце? Наш лозунг: **Людзі! Ніколі не будзеце панамі, адцураўшыся ўсяго роднага!**

**Кася Рыбак, Томак Жак, Кася Младзяноўская, Анджэй Пракапюк, вучні VIII класа Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных**

## *Калядны сюрпрыз*

Я не ведаю, ці гэтае „здарэнне” мне снілася, ці здзейснілася сапраўды, ведаю толькі, што было вельмі прыемнае...

Было пятае студзеня, астаўся адзін дзень да Нараджэння Хрыстовага. Я выйшла на пакупкі. Хацела купіць падарунак для свайго брата — Дарка. Было ўжо позна. Я спяшалася, бо ў мяне было мала часу. Крамы былі яшчэ адкрытыя.

На вуліцы было шмат людзей. Кожны спяшаўся з поўнымі сумкамі ў сваю хату. Я заглядзелася на вялікую, святочную вітрыну і перавярнулася. Пачаў падаць снег. Вялікія сняжынкі сыпаліся на мяне. Не мінулі нават „дзве хвілінкі” ад таго як я ўпала, а тут нехта падаў мне руку і памог устаць.

— Дзякую, — сказала я.

— Няма за што, — адказаў... Дзед Мароз. — Куды ты так спяшаешся?

— Я, ... я ..., — не магла я дастаць з сябе голасу.

— Скажы, скажы, калі ласка, — прасіў Дзед Мароз.

— Я хацела купіць брату нейкі падарунак,

— Падарунак, кажаш?

— Так.

— Калі так, то я табе дам падарунак. — Дзед Мароз сказаў гэтыя словы і выняў з мяшка кніжку. Кніга была прыгожая. — Вазьмі, — сказаў. — Вясёлых святаў! Яшчэ гучалі словы дабрадзея, а яго... ужо не было.

— Дзякую! — крыкнула я. — Дзякую!

— Чаго ты крычыш? — пытаецца мама.

Я ляжу ў сваім ложку і нічога не разумею.

— Мама, я дзякавала Дзеду Марозу за...

— Супакойся, гэта быў толькі сон.

— Так, гэта быў толькі сон, — сказала я сабе яшчэ раз, — толькі сон...

А пад падушкай ляжала кніжка. Яна была такая ж, якую даў мне Дзед Мароз.

Цяпер я ўжо не ведаю — сон гэта быў ці не?

**Дарота Астапковіч**
**клас І „б” Гайнаўскага белліцэя**

*Малюнак Тамаша ДЗЕМЯНЮКА з ПШ у Чыжах*

## *Крыжаванка*

Разгадайце крыжаванку, а адказ (словы ў выдзеленым радку) дашліце ў „Зорку”. Крыжаванку падрыхтавалі: Уля Гродзкая і Кася Яканюк, вучаніцы VIII „а” класа ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

У начы на небе
„Бардаўская ...”
... Купала
Журналісцкі жанр
Пара года
Першая на небе
„Белавежац” — ... памёр 2.09.1998 г.
Аўсяны ... — адна з даўніх беларускіх страў
Сядзіць за святочным сталом
Ляжаць пад святочнай ... ёлкай

# Іаанна, Альжбета і Кася

— Танец — гэта мая радасць, — кажа Іаанна Юшчук з Беластока. — На паркеце забываюся пра кантрольныя працы, школьныя абавязкі, клопаты. Ёсць таксама поспехі. 19 снежня 1998 г. Іаанна ўдзельнічала ў Агульнапольскім турніры таварыскіх танцаў арганізаваным Школай Евы і Ежы Пшэкопаў і Ваяводскай ўправай Сувалкаў. У конкурсе запрэзентаваліся 80 пар, у тым ліку госці з Калінінграда. Іаанна Юшчук і яе партнёр Адам Бобік заваявалі бронзавы медаль. Поспехам дзяўчынкі радуецца ўся сям'я Юшчукоў. Іаанна ад пяці гадоў вучыцца ў цэнтры танцавальнай адукацыі Мікалая Пажарскага. Найбольш любіць латынаамерыканскі рэпертуар. Ды не самымі танцамі жыве дзяўчынка. Яна ходзіць на балетныя заняткі, іграе на раялі, любіць маляваць і піша вершы. У школе найбольш падабаюцца ёй гуманістычныя прадметы. Іаанна — вучаніца V „а" класа Пачатковай школы н-р 45, што па вуліцы Лагоднай.


*Іаанна.*

Малодшая на тры гады сястрычка Альжбета вучыцца ў славутым II „ц", што ў ПШ н-р 4. Бацькі аддалі яе туды з увагі на беларускую мову. Раней хадзіла яна ў беларускае прадшколле. Мама, Анна Юшчук, паказвае ўзнагароды за добрыя вынікі ў навуцы і паводзінах. Самым незвычайным заняткам Элі з'яўляецца ігра на раялі. У свет Баха, якога найбольш любіць дзяўчынка, увяла яе настаўніца музыкі Аліцыя Багінская. Эля ўспамінае, як здавала экзамены ў музычную школу. — Разам са мной была пані Багінская. Перад нашым выступленнем падышла да нас адна пані і зірнуўшы на мяне згары папытала ў маёй настаўніцы: *O, to-to gra?*

— *Tak, gra*, — адказала пані Аліцыя Багінская. Я села за раяль і пачала іграць. Пасля выступлення запанавала маўчанне, потым настаўніцы з камісіі *выляцелі* з-за стала і прывялі яшчэ іншых настаўнікаў. Мне загадалі зайграць другі раз... пазней трэці. Пра ігру Элі на раялі гаворыць музычны свет Беластока. Нядаўна дзяўчынку прадставілі прафесару Ясінскаму з Вроцлава. Альжбета найбольш любіць Баха, яго музыку іграе ўжо з памяці. У мінулым годзе дзяўчынка заняла першае месца у конкурсе калядак.

— Найбольш люблю іграць вясёлыя, разбрыканыя мелодыі, — кажа.

Зараз яна ў II класе музычнай школы I ступені, у класе Гражыны Арысяк. Апрача музыкі Альжбета любіць школьны тэатр і кніжкі.

Наймалодшая дачушка спадарства Анны і Пятра Юшчукоў, Кася, вучыцца ігры на скрыпцы. Яна таксама ходзіць на ўрокі балета і спеваў.

— Усе песні са спектакляў, якія ладзім у прадшколлі Кася ведае на памяць, — кажа тата дзяўчынкі, мецэнас Пятро Юшчук.

Кася ходзіць у беларускае прадшколле ўжо чацвёрты год. Вельмі ёй падабаецца беларуская мова, на якой часта гутарыць з татам.

— Учора, калі сяброўкі з прадшколля пачалі гаварыць да мяне на польскай мове я прыкінулася, што іх не разумею. І яны мусілі расказаць мне ўсё па-беларуску, — смяецца дзяўчынка.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*


*Кася.*


*Альжбета.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 2

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Wyrzut / Rak | ▼ | Koza | Łąka / Guma | | ▼ | Rząd / Morze | ▼ |
| ▶ | | ▼ | Góra / Ryż ▼ | ▼ ▶ | | ▼ | |
| Korowód ▶ | | | | | | | |
| ▶ | | | | | 📖 | | 📖 |
| Atu / Rozsada ▶ | | | | | | | 📖 |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 50:** Мова, Лі, зацікаўленні, мыла, кіт, рагач, таксі, доля, пан, шарада. Памада, цыган, сілач, качан, воўк, літр, лета, лінь, сад, сініца.

Узнагароды — **аўтаручкі** — выйгралі: **Юліта Гайко** з Бельска-Падляшскага, **Іаанна Германовіч** з Махнатага, **Бажэна Ляўчук** з Дубіч-Царкоўных, **Дарафей Ляўчук** з Чыжык і **Аляксей Барэль** з Ваўкавыска.

## Святы Мікалай

— патрон півавараў, мельнікаў, маракоў, натарысаў і многіх іншых прафесій. Нарадзіўся ён у багатай сям'і ў горадзе Патора ў Азіі ў Лікеі (сённяшняя Турцыя) як адзінае вымаленае ў Бога дзіця. Яго бацькі былі ўжо старэчамі і не мелі раней дзяцей. Дакладны год нараджэння невядомы, найчасцей падаюцца даты паміж 345 і 352 гадамі. Жыццё будучага святога было поўнае цудатворных здарэнняў. Яго постаць авеяная была таямнічасцю і цудоўнасцю, асабліва тады, калі стаў ён епіскапам.

Святы Мікалай выратаваў аднойчы рыбакоў у час вялікай буры. Іншым разам выратаваў ад смерці нявінна асуджаных на смерць маладых хлопцаў. Цэлае сваё жыццё Святы Мікалай памагаў бедным. Як кажа традыцыя падкідваў ім грошы.

Пасля смерці, пры труне святога адбылося многа цудатворных аздараўленняў.

Ужо ў IV стагоддзі ўшаноўвалі яго памяць у Канстанцінопалі, а потым на цэлым Усходзе. Калі Русь прыняла хрысціянства, пачаў ён там цешыцца асаблівай пашанай. На Русі называюць яго Святым Мікалаем Цудатворцам.

З часам Святога Мікалая пачало ўшаноўваць і заходняе хрысціянства. Дзень Святога Мікалая Цудатворца Праваслаўная царква ўшаноўвае 6 снежня паводле старога стылю, а 19 снежня па новым стылі.

Ад паловы XVIII стагоддзя асобу гэтага святога ў многіх краінах пачалі спалучаць са святам Каляд. Заходняя традыцыя гаворыць, што з гэтага часу ў дзень шанавання памяці Святога Мікалая па дамах стаў хадзіць калядпік, пераапрануты за святога. Ён прыносіў падарункі дзецям: ласункі, абаранкі, драўляныя цацкі, цёплую вопратку. Цяпер Святога Мікалая прадстаўляюць у чырвонай цёплай вопратцы. Яго адзнакі гэта таксама шапка з кутасом, мяшок з падарункамі і доўгая, белая барада. Не заўсёды аднак яго так малявалі. На святых іконах Мікалая Цудатворца прадстаўляецца ля караблёў.

**Марцін Брэчка**

Талон „Зоркі" № 2
10.01.1999

Нататкі з падарожжа па Іспаніі

# Андора



Больш-менш у палавіне дарогі між Барселонай і граніцай Францыі (мо крыху бліжэй Францыі) знаходзіцца на тэрыторыі Іспаніі маленькая дзяржаўка **Андора**.

Паездка ў Андору з Ларэт-дэ-Мар, дзе нам давялося адпачываць (40 кіламетраў ад Барселоны, на Коста Брава — Дзікім Беразе), заняла нам цэлы дзень. Доўга ехалі мы між горнымі масівамі Пірэнеяў, праязджалі праз тунелі, адзін з якіх, Дэль Кадзі, быў даўжынёю больш пяці кіламетраў. Дзякуй Богу, што шасейныя дарогі ў Іспаніі дасканалыя.

Я вельмі здзівілася, што ў аўтобусе было даволі многа нашых, хаця на іншых мясцовых экскурсіях мы рэдка бачылі кагосьці з іх. Але зараз жа ўсё праяснілася: наш гід паведаміў, што ў Андоры надта танная электроніка, ды і наогул у гэтай, калі так можна назваць, краіне — бяспошлінная зона. Адным словам, варта нешта прыкупіць.

Як дзяржава Андора ўзнікла ў XIII стагоддзі. Дагэтуль яна пераходзіла з рук у рукі: раз была французская, раз — іспанская. На працягу сямісот гадоў Андора з'яўляецца незалежнай дзяржавай. Епіскап тут іспанскі, менавіта ён кіруе сямю далінамі ці парафіямі, яны як бы на правах нашага ваяводства. Адміністрацыйна знаходзяцца пад пратэктаратам французскага прэзідэнта.

Сталіца Андоры — Андора-ла-Вела, але практычна — з ваколіцамі — гэта і ёсць амаль уся Андора. У Андоры няма войска. Іспанскія войскі бароняць гэту дзяржаву ад нападу французаў, а французскія — ад іспанцаў. Але паліцыя тут ёсць. Яна, зрэшты, у Андоры проста неабходная ў сувязі з вялікім турыстычным рухам не толькі летам, але і зімою, калі прыязджае сюды мноства лыжнікаў, якія ахвотна з'язджаюць тут з пакрытых снегам гор.

У дзяржаве Андора жыве шэсцьдзесят тысяч чалавек без права галасаваць. Усяго шэсць тысяч чалавек з'яўляюцца грамадзянамі гэтай краіны. Дзеля таго, каб атрымаць грамадзянства, трэба пражыць у Андоры прынамсі дваццаць гадоў.

Дык вось ужо і тая Андора. Звычайны, як і ўсюды, гранічны пункт з мытнікамі і ўсім патрэбным абсталяваннем. У той бок нас прапускаюць хутка і без праблем.

Праехалі крышку, і перад намі быццам рассунуліся Пірэнеі і паказаўся горад Андора-ла-Вела, які і так усе турысты называюць проста Андорай. Усюды навокал горы, а тут, у даліне, цудоўны, супереўрапейскі горад, у які можна даехаць толькі самаходам ці аўтобусам. Даляцець няма як, бо няма тут аэрадрома і не відаць нідзе месца, каб можна было яго пабудаваць.

Зямля тут наогул у вялікай цане. Найменшы кавалачак выкарыстоўваецца максімальна. Садзяць тут тытунь, кукурузу, фасолю. Але ж ці з гэтага пражывеш па-людску?!

Праўда, крыху зарабляюць жыхары Андоры на вырабе тытуню, хаця іх папяросы крыху горшыя за іншыя, дае даход радыё „Андора", але наогул усе тут жывуць **дзякуючы гандлю**.

У мяне было такое ўражанне, што ўся Андора — гэта адна вялізная, бясконцая крама. Прынамсі цэнтральная частка сталіцы Андоры, здалося мне, складалася толькі з крамак, таварных дамоў, складоў, элегантных крам, прылепленых да скал і імкнучыхся разам з імі ўвысь, з шыкарнымі, круглымі, шкляньмі ліфтамі пасярэдзіне.

Ад малога дзеці тут вучацца прадаваць, абслугоўваць кліента. Ад таго, якія яны будуць спрытныя, залежыць іх будучыня.

А кліентаў ім не забракне. Імчаць у гэту бяспошлінную зону самаходы з жыхарамі Іспаніі, Францыі, Германіі, якія часта (а некаторыя і пастаянна) робяць у Андоры значна таннейшыя пакупкі, чым у сваёй краіне.

У сувязі з тым, што ў Андоры няма падаткаў, іх жыхары жывуць, як напрыклад, у княстве Манака, што ляжыць на тэрыторыі Францыі, на высокім матэрыяльным узроўні. Аднак жа, паколькі яны не плацяць падаткаў, дык не могуць належаць да Еўрапейскага Саюза так, як хаця б Іспанія.

У Андоры гавораць па-каталонску, але не горш умеюць паслугоўвацца іспанскім і французскім. У крамах чувацъ таксама ангельшчына. Хаця каталонская мова пры генерале Франка была забаронена, дык тут, высока ў гарах, на ёй гаварылі без боязі.

Ходзім мы па Андоры, заглядаем у крамы, захапляемся прыгажосцю будынкаў. Крамы, крамы, крамы... Во нейкая цудоўная будоўля, быццам вырастае са скалы, а ўся сучасная, метал і шкло, мо гэта ўрэшце нейкая ўстанова?.. Падыходзім бліжэй. Не, зноў крама. Часамі бачым яшчэ банк.

Ад гэтых крамаў круціцца ў галаве, млеюць ногі. А ну іх, з іх крамамі! Знайшлі мы праўдзівыя кастаньеты ў музычным магазіне — і добра. Малая ўжо ходзіць і пастуквае імі. А ўсё іншае, ну, мо апрача самбрэра, можна купіць і ў нас.

Ну, і патрэслі ж наш аўтобус, калі мы вярталіся з Андоры. Што шукалі іспанскія мытнікі — да сёння не ведаю.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Новыя вершы

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

## *Пружанскі хрэст*

На водападзеле,
між марамі
ў сяле Росахі
на раздарожжы
пад акацыяй
агароджаны
штыкетамі
З вянкамі на пні
засохлымі — струхлелы
сточаны караедамі,
палопаны ад маразоў
стаяў згорблены
шасціметровы **крыж**.
У радзіме паэта
Ляхоцкага
і дзяцінства
Сэрафіна
сярод атэістаў.
Прыпыняліся там
пахавальныя коні,
буйнымі слязамі
плакалі, галасілі
жанчыны.
Пішуць мне над Віслу:
„Ой, няма ўжо яго, няма,
ды не спявай па ім
элегій:
З маленькага бы мак
зернетка веры
прапрабацькоў
на тым жа месцы
ля разбуранай школы
да неба выцягвае рукі
не вольхавы
не бярозавы
не дубовы
а хрэст непахісны
з найветлаўшай
с т а л і".
Муркае мне вецер:
Пясняр, зашапчы
А л і л у я .

## *Да Барыса Руско*

Даю табе — вось —
оптам пушчу
белавежскую.
Кажаш „мала"?
Даю табе ўраз
і Крыначку
кажаш „прагну"?
Даю табе ў рэшце
рэшт Гайнаўку.
кажаш: „дзе ж там
гук пра мяне"?
Беластока
табе не дам:
зменіш назву
вуліцы
Заменгофа.
Не ўцякай жа
на дзікі Полюс:
і так дагоніць
цябе і там
Вясёлка.
Пацалуе,
загадае:
хутчэй бяры
шыферную
таблічку,
НАПІШЫ НАМ
ІМЯ КОСМАСУ!

**Міхась Куптэль**

## *Мора*

Апісваючы мора
ў вялікай задуменнасці
над гістрыяй вякоў
я ўхапіў толькі
плёскат хвалі
ў малое слова

# Віктар Швед у Гданьску...

12 снежня 1998 г. у Гданьску ў кашубскім клубе „Мэствін" адбылася аўтарская сустрэча Віктара Шведа. Апошні раз В. Швед наведаў гданьскіх беларусаў у маі 1992 г. За гэты час паэт напісаў шмат новых вершаў, якія часткова ўвайшлі ў кнігу „Вершы Натальцы".

Паэта прывіталі дзеці, якія вывучылі на памяць яго вершы, між іншым: „Далёка да сонца", „Коцік-бязбоцік", „Выганяй мароз на двор", „Хачу коніка", „Ягады". Наймалодшым дэкламатарам быў Алесь Матысюк, які закончыў 5 гадоў. Паколькі публіка была рознага ўзросту: ад 5 да 84 гадоў, Віктар Швед чытаў не толькі дзіцячыя творы. Шмат з прачытаных вершаў адносілася да беларускасці, мовы і малой айчыны. Патрыятычныя вершы паэта слухачы ўспрынялі воплескамі. З нагоды Калядаў аўтар прачытаў свой верш прысвечаны гэтым святам.

В. Швед прывёз з сабой кніжкі: „Вершы Натальцы", „Wiersze wybrane", „Вясёлку" і „Родны схоў". Паэт настолькі захапіў усіх сваімі вершамі, што амаль увесь вечар падпісваў слухачам свае кнігі. Сустрэча закончылася скромным пачастункам і віншаваннямі з нагоды Калядаў.

Маёй дачушцы найбольш падабаліся вершы для дзяцей, асабліва „Хто парысаваў сцяну". Мы, гданьшчукі, выказваем вялікае дзякуй Віктару Шведу за сустрэчу і магчымасць пазнаёміцца з яго новымі вершамі.

**Лена Глагоўская**

# ... і ў Гайнаўцы

16 снежня 1998 г. у Гайнаўскім доме культуры адбылася сустрэча беларускага паэта Віктара Шведа з вучнямі падставовых школ.

Намеснік дырэктара ГДК Ірэна Парфянюк прывітаўшы паэта і ўдзельнікаў сустрэчы, сярод якіх былі настаўнікі беларускай мовы, запрасіла вучняў з тэатральнай групы, што дзейнічае пры ГДК. Чыталі яны творы са зборніка „Вершы Натальцы", а пазней Віктар Швед расказаў пра сваю творчасць і кнігі. Звярнуў ён увагу на апошнія вершы, якія напісаў, галоўным чынам, сваёй дачцэ Натальцы. Паэт успамінаў пра сваю вучобу, жыццё, працу і расказаў пра літаб'яднанне „Белавежа". Гаварыў таксама пра пераклады на польскую мову, чытаў свае вершы па-беларуску. Адказваў на дэталёвыя пытанні чытачоў адносна творчасці і прыватнага жыцця, а пасля падпісваў свае кніжкі. Дзеці, сярод якіх найбольш было вучняў са школ н-р 2 і 6, найчасцей пыталі пра зборнік „Вершы Натальцы". Можа сярод вучняў знойдуцца і такія, якія самі паспрабуюць выказацца ў вершы.

**Аляксей Мароз**

# Ціхвінская ікона Божай Маці ў Браньску



*Цяперашняя царква ў Браньску.*

Браньск як рускі горад упамінаецца ў XI стагоддзі. Пісьмовыя весткі пра царкву паходзяць з пачатку XVI ст. Кароль Зыгмунт Стары ў 1507 г. надаў Галене, удаве па сваім браце Аляксандры, у пажыццёвае ўладанне бельскі замак з гарадамі Браньскам і Суражам. Драўляная царква ў Браньску была пабудавана каля 1510 г., а яе нябесным заступнікам абраны быў св. Сымон Стоўпнік. Інвентар старагства бельскага і суражскага ад 1588 г. пералічвае царкву ў Браньску. Калі ў ёй апынулася ікона Ціхвінскай Божай Маці — не вядома. Паводле гісторыкаў мастацтва, ікона паходзіць з XVI ст., аднак пазней перамалёўвалася (твар і рукі) мастакамі, якія дзейнічалі ў кругу заходняй культуры. Ікона з Браньска магла быць творам артыста, які быў звязаны з колам рускіх іканапісцаў, якія працавалі на ўсходніх рубяжах польскіх земляў.

Каралева Галена захавала праваслаўную веру і стала яе абаронцам у Вялікім княстве Літоўскім. У якасці шлюбнага падарунка атрымала яна ікону Божай Маці Адзігітры, прывезеную паводле традыцыі з Візантыі ў Маскву ейнаю маці Сафіяй з імператарскага роду Палеалогаў. Пазней гэтая ікона была перададзена каралевай Прачысценскаму сабору, а пасля Свята-Троіцкаму манастыру ў Вільні. Таксама каралева Галена была ахвяравальніцай цудадзейнай іконы Божай Маці Адзігітры ў Бельску. Праўдападобна яна ахвяравала таксама копію іконы Божай Маці царкве ў Браньску, якая дакладна адпавядае іканаграфічнай схеме Ціхвінскай Божай Маці. Тэхніка яе выканання блізкая рускім іконам. Паўтараецца на ёй традыцыйны ўклад асоб і адзенне Божай Маці, а таксама прадаўгаватая постаць Хрыста. Рускія іконы гэтага тыпу з'яўляюцца копіямі цудадзейнай іконы, якая ў 1383 г. аб'явілася каля Ціхвіна паблізу Ноўгарада.

*Візыта* царквы ў Браньску ад 1727 г. не змяшчае дэталёвага апісання іконы, але некаторыя вопісы могуць указваць на знаходжанне гэтай іконы ў храме. Згадваецца ў іх, што „cerkiew jest nowa i nie wykończona... Ołtarz po lewej stronie Nayświętszej Panny na gradusach snicerskiej pracy ze wszystkim porządny tylko ieszcze nie malowany". Апрача гэтага яшчэ ўпамінаецца, што ў царкве „znayduie obrazow z Moskiewskimi Osim a za szkłem w ramkach dziewiąty". Браньская ікона Божай Маці была вядомая сваёй цудадзейнасцю, аб чым сведчаць шматлікія ахвяраванні ад удзячных вернікаў: „Tabliczek Małych y większych trzynaście a czterynasta Niby in 8 taro nan z łańcuszkiem y kolcem serduszkow dwa iedna z nich większe Krzyżykow pięć Szósty z kamieniem".

Згаданая ікона захавалася да нашага часу і цяпер знаходзіцца ў царкве ў Браньску. Па загадзе Ваяводскага рэстаўратара помнікаў у Беластоку ад ліпеня 1984 г. да верасня 1986 г. аднаўленне іконы правёў варшаўскі спецыялізаваны кааператыў „Ars Antiqua". Паводле апісання, „ikona przedstawiając Matkę Bożą Hodigitrię w typie Matki Bożej Tychwińskiej ma kształt prostokąta o wymiarach 130 x 109 cm z kowczegiem o głębokości ok. 1 cm malowana jest temperami na białym gruncie położonym na płótnie, które z kolei leży na lipowej desce. Matka Boża ukazana od pasa z przodu. Trzyma na lewej ręce Chrystusa ukazanego całopostaciowo w ujęciu en trois quarts. Głowa Matki Bożej pochylona nieznacznie w stronę Chrystusa. Prawa ręka złożona na piersi, lewa podtrzymuje Dzieciątko. Matka Boża ubrana w brązowo-fioletowy himetion. Nad czołem i na ramionach ślady trzech gwiazd. Chrystus siedzi zwrócony do Matki. Prawa jego noga założona na lewą ze stopą odwróconą podeszwą do widza. Prawa ręka Zbawiciela wyciągnięta poziomo błogosławi, w lewej ręce trzyma Chrystus biały zwój".

Ікона прыкрытая выразанай у ліпавай драўніне і пазалочанай рызай, якая абымае ўсю постаць Божай Маці і Дзіцятка за выключэннем твару, рук і ступняў, якія відны ў адтулінах. Галовы Маці Божай і Хрыста ўвенчаны каронамі са срэбнай бляхі. Чатырнаццаць ахвяраванняў, пералічаных у дакуменце ад 1727 г., прыбіты былі цвікамі да фону іконы. Прадстаўляюць яны срэбныя плíткі з вывамі Багамаці з Дзіцяткам або постацей донараў і іх ініцыялаў. На адной плітцы віднеецца надпіс: „Alexandrian druskiewic na czeczn nwele panu bog". Рэстаўратар згадвае таксама, што карона Божай Маці пасярэдзіне завершана была куляй, на якой мог быць крыжык (куля пашкоджана). *Візыта* ад 1727 г. пералічвае „krzyż z kamieniem". Ахвяраванні прыносіліся вернікамі ў XVII і на пачтку XVIII ст.ст.

Няма сумненняў, што гэта тая ж ікона, якая ўпамінаецца ў дакуменце ад 1727 г. Пратрымала яна ўсе бурныя падзеі на працягу некалькіх стагоддзяў. У трыццатых гадах цяперашняга стагоддзя царква ў Браньску была разбурана, але ікона захавалася і ўвесь час з'яўляецца апорай „малога статка". Знайшла яна месца ў драўляным будынку, прыстасаваным на царкву. Цяпер вернікі рашыліся збудаваць мураваную царкву і трэба спадзявацца, што Ціхвінская ікона Божай Маці знойдзе належнае месца ў новым храме. Можна таксама спадзявацца, што Божая Маці дапаможа нам увайсці ў III Тысячагоддзе і ахіне вернікаў сваёй апекай.

**(агс)**

PS. Асобам і ўстановам, якія хацелі б фінансава падтрымаць будову новай царквы ў Браньску, паведамляем нумар банкаўскага рахунка: Społeczny Komitet Budowy Cerkwi w Brańsku, Bank Spółdzielczy nr 80630001-23894-27016-117.



*Праект новай царквы ў Браньску.*

# Мінулае і будучыня Брэста

Падляшша пачаткова было зямлёй яцвягаў. Пасля іх заваявання з захаду прыйшлі мазуры, а з усходу — праваслаўныя жыхары Палесся ды Валыні. Першы жыхар Палесся (балт) жыў у цяперашніх Пружанах, таму што там знайшлі манетны скарб II-III стагоддзяў нашай эры.

Гісторыю Брэста пачнем з легенды яшчэ з язычніцкіх часоў. Маўляў той, якісь купец са сваімі таварамі не мог праехаць праз дрыгву. Тады ён зрабіў гаць з бярозаў, заваліў бярозамі балота і такім чынам стварыў сабе горную дарогу. Там жа збудаваў капішча (гантыну) ды назваў гэта месца „бярэсцем". Прадаўшы тавары, ён пасяліўся ля яго з сям'ёй ды слугамі. Паступова гэтае сяло стала гарадком, які ўжо пачалі называць Валынскам. Ён займаў 1 гектар умацаваны звонку ровам, земляным валам і частаколам. У сярэдзіне былі вуліцы, а пры іх больш як 200 дамоў і клуняў. Грунт там археолагі раскапалі ды знайшлі прылады працы, аздобы, вырабы з металу, шкла, каменя, дрэва і скуры, а між імі грэбень з самшыту з кірылаўскай азбукай, разцы з металу, кніжную спражку, шахматныя фігуркі, дзіцячыя цацкі. Значыцца, племя дрыгавічоў не было ўжо некультурнае.

У 1019 годзе вярнулася назва Бярэсце, пасля з XVII ст. да пачатку XX ст. перамянілася ў Брэст-Літоўск, у 1921-1939 гг. пад польскай уладай у Brześć nad Bugiem, ад 1939 — у Брэст.

Козырам Брэста былі ды асталіся дарогі: па рацэ Бугу ў Балтыйскае мора і па Мухаўцы, Прыпяці і Дняпры — у Чорнае. Ад XI да XIII ст.ст. горад прыналежаў па чарзе да тураўскіх, кіеўскіх, уладзіміра-валынскіх, галіцка-валынскіх князёў, да палякаў, ізноў да Турава і Кіева, да Літвы, да Валыні, зноў да Літвы і Польшчы, ажно кароль Казімір III у 1366 годзе перадаў яго Вялікаму княству Літоўскаму. У 1390 г. горад дастаў магдэбурскае права: было ў ім каля 2 тысяч жыхароў. Апрача жывёлагадоўлі і земляробства вялікі ўзровень дасягнулі рамёствы: ганчарскае, кавальскае, кушнерскае, ювелірнае, шавецкае ды іншыя. Мясцовыя купцы вывозілі ў Заходнюю Еўропу фрукты, скуры, будаўнічыя матэрыялы, зерне ды прывозілі соль, сукно, шоўк, паперу.

Ад 1413 г. Брэст — цэнтр Берасцейскага старагства ў складзе Троцкага ваяводства. У 1441 г. лічыўся адным з галоўных гарадоў ВКЛ. У XV стагоддзі там акрамя 40 рамёстваў варылі мёд ды піва. З'езды і сеймы шляхты праводзіліся ў гэтым горадзе ў 1446, 1454, 1460, 1478, 1505, 1511, 1515, 1518 гг.

У 1550 г. брэсцкі староста Радзівіл Чорны заладжыў кальвінскі збор з першай у Беларусі тыпаграфіяй, у якой у 1563 г. надрукавалі „Брэсцкую Біблію". Тады ў ВКЛ афіцыйнай дзяржаўнай мовай была беларуская.

На Брэст напалі ў 1379 г. крыжакі, у 1657 і 1706 гг. — шведы, а раней у 1240 (і пазней у 1500) мангола-татары, з-за таго ў канцы XVIII ст. у горадзе было толькі 3,5 тысячы жыхароў. Рост насельніцтва пачаўся толькі сто гадоў таму: у 1914 — 53 тыс., 1940 — 68,8 тыс. 1959 — 73,6 тыс., 1975 — 156 тыс., 1982 — 201 тыс., 1986 — 230 тысяч.

Брэст ніколі не быў цэнтрам княства. Як паветовы горад пасля 1795 года быў у межах Слонімскага ваяводства, ад 1801 г. — Гродзенскага. Пасля I сусветнай вайны сам стаў цэнтрам Палескага (Брэсцкага) ваяводства, а цяпер — вобласці.

Пасля 1871 г. дзейнічала чыгунка Варшава — Брэст — Масква.

У 1895 г. пажар знішчыў горад, які не меў тады ні водаправода, ні каналізацыі і толькі 5 калодзежаў.

У XVIII ст. у горадзе была толькі адна аднакласная парафіяльная школа. У 1897 г. было 45,5% непісьменных.

У 1985/86 г. у Брэсце працавалі 27 сярэднія школы, ды розныя тэхнікумы і музычная школа.

Ад 1950 г. дзейнічае педагагічны інстытут, а з 1966 — інжынерна-будаўнічы інстытут, які пастановай Савета Міністраў ад 24 ліпеня 1989 года быў перайменаваны ў Брэсцкі політэхнічны інстытут. Ён цяпер вядзе падрыхтоўку спецыялістаў па 13 спецыяльнасцях па будаўніцтву, водазабеспячэнні, машынабудаванні, электроніцы і эканоміцы.

Мяркуецца, што ў 2000 годзе Брэст будзе налічваць 300 тысяч жыхароў, больш-менш як і Беласток. Брэст упрытык прымыкае да польскай мяжы. Дзеліць дзве дзяржавы толькі мост. Ох, каб ён быў памостам, а не перашкодай для дружбы народаў...

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Дзіця ў завірусе

**Расказвае дзевяностагадовая Марыя КУЗЬМА з вёскі Лясная ў Нараўчанскай гміне.**

... А я па начах сяджу — мне і дзень — ноч. А я ж не бачу і ў дзень, а я ж не бачу сонца... Усё вобмацкам. А так калісь працавала, і ў Сібіры, і ў Германіі, і ў нас. Такая маленькая, такая тоненькая. І каб не Валя, дачка мая, не жыла б я цяпер зусім, сляпая. Няма яе, а мне той свет яшчэ чарнейшы. Раптам чую — шуух! — едзе ровар. І зноў мне ў душы светла...

Мела я сем гадоў, як мая мама, Фадося, засталася ўдавою. Прапала нам карова. А я ж так плакала малака. Мамін тата быў багаты чалавек. Прыехаў да нас з Белавежы. Мама кажа, што я так пакутую без малака. Кажа ён: а жа ж у мяне сем кароў доіцца, укінь яе да мяне на воз, няхай у нас п'е малака колькі хоча. І мяне забраў. Не было мне там добра, крыўдзілі дзеці маміных братоў; дасць мне дзед хлябца, а яны мне з рук яго вырвуць, і я галодная бегаю.

А тут зрабілася замяшанне ў *панстве*. Людзі ўцякаць збіраюцца з нашых мясцовасцей, бо страх ідзе. Вы ж ведаеце, вайна. А пасла *леваруцыя*. Людзі давай збірацца, ставіць буды на вазы. Кінулі і мяне сваякі на воз, думалі, аддадуць па дарозе маей маме. Прыехалі да Янова, на Коцы мост, а ён разбіты. Паехалі далей, са мною, мама засталася, бо ж не магла ракі пераехаць.

Заехалі мы на шырокае поле зараз за Белавежаю, і тут пасыпаліся на нас бомбы. Людзі пакідалі вазы, пабралі што хто мог у рукі, дзяцей малых пахапалі. А дзедка майго, мамінага тату і мяне сваякі пакінулі. А быў з намі сын дзедаў з жонкай і дзецьмі, і нявестка (што муж яе ў Расіі служыў сакратаром), і дачка-дзеўка. Узяў дзядзька сваю радзіну і пайшоў без аглядкі. Маладая Параска разаслала дыван, ад швейнай машынкі галоўку адкруціла, паклала ў дыван яшчэ і сваё адзенне, закінула на спіну і пабегла. Нявестка таксама. А мы з дзедкам засталіся адны сярод поля. А бомбы падаюць, выбіваюць ямы, агонь! Дзедку вочы прысмаліла... А быў ён ужо стары-старуленькі. Што дзедку рабіці... Мяне не пакідае. Мы толькі двое на тым полі, людзі разбегліся, толькі вазы, коні амаль усе раненыя вішчаць. Раскачаў дзедка звалёк палатна, пасадзіў мяне на чорнага вялікага каня, тым палатном абкруціў мне ножкі... Я заплакала ад страху. Зняў дзедка мяне з таго страшнага каня, узяў на спіну і панёс. А сілы ж не меў вялікае. І пешшу мяне крыху вёў, за ручку. Давалакліся мы да шашы. Там у адкосе ляжаў нейкі зялёны вазок, пасадзіў мяне на яго дзедка, і так давёз да поезда.

У Расіі да паяздоў пад'язджалі падводы і людзі разбіралі бежанцаў. Заехалі мы ж аж пад Саратаў, у вёску над рэчкаю. Пасяліліся ўдваёх у хатцы маленькай (гаспадар паставіў сабе новую хату). Дзедка захварэў моцна. Ляжаў на печы. Людзі нам памагалі. Прынясе паесці адна, другая — замнога для нас двох, старэчы і малечы, псуецца ежа. Тады мне расійскія кабеты кажуць: „Девочка! Мы тебя научим, как просить хлебушка. Вот в каждый дом приходи под окошко, проси: «Прошу Христа милости», вот я услышу, и дам тебе молочка кувшин и полхлеба белого. Когда это съедите, пойдёшь в другой дом. Станешь под окошком...» І так я іду аж у канец вёскі, потым зноў начынаю з другога канца. І так я свайго дзедку карміла. А дзедка ўжо пры смерці быў... Падам яму малака, хлябца, гаршчок, пасля вынесу, прыбяру... А той жа дзедаў сын, дзядзька мой, зусім недалёка са сваёю сям'ёю жыў, ды і не аказаўся. Тады чужыя людзі мяне з дзедкам пашкадавалі, кажуць, пашлем у кансістор, у адрасны стол, значыць, што шукаем вашае сям'і. І так знайшлі тую цётку-дзеўку Параску.

Прыехала Параска, убачыла мяне са сваім уміраючым бацькам і стала плакаць-лямантаваць. Сабраліся рускія жанчыны і суцяшаюць: „Пашечка, не плач!" Хацела цётка мяне пачасаць, зняла хустачку, распусціла косы (мела я іх аж за пояс), а вошы тую хустку градам засыпалі. Заплакала Параска яшчэ жаласней. „Паша, погоди, сейчас сделаем что надо!" — супакоіла яе адна жанчына. Прынесла нажніцы. Выкапалі кабеты ямку. Далі нажніцы цётцы: стрыжы дагала! І стала Параска адрэзваць пры скуры мае доўгія косы, злямцаваныя вошамі, і кідаць тыя пасмы ў яму. Выстрыгла мяне да голае скуры, абмыла, прыюціла... А дзядуля праз пару дзён, у бальніцы, памёр. Там мы яго і пахавалі.

Замуж цётка ў Расіі выйшла. А мяне адправілі да чужых людзей дзяцей пільнаваць. Як кепска тая сям'я жыла: гаспадыня біла мужа, выкідала яго ў сені, а мяне разам з ім! Зіма стаіць крэпкая, я іду, лёд на рэчцы праб'ю, пялюшкі мыю. Суседзі ўступіліся, далі знаць цётцы, і ейны муж па мяне прыйшоў, забраў дахаты. І я жыла ў іх, пакуль не паведамілі, што бежанцы могуць ехаць на радзіму. Цётка сказала, што завязе мяне дадому, аддасць маці, хай гадуе мяне як хоча. Мне ўжо было дзесяць гадоў. Усё памятаю, *леваруцыю*: як стралялі, палілі, як цэрквы абіралі. Малыя дзеці ўсюды бываюць, усё ўбачаць.

Так я і прыехала да мамы. Здужала ўжо рубаць дровы, насіла з лесу астраколы на спіне. Калі я дарасла да 19 гадоў, стала мама шукаць, за каго мяне выдаць. Усюды прымакі. І трапіўся мне такі ж, гультаіска, зусім не да жыцця... Немец нас вывез разам з дзецьмі і з мамай у Германію, астаўся адно камень распалены. Але Бог даў, што асталася цэлай радзіна. Але гэта ўжо іншая гісторыя...

**Запісала Міра Лукша**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 31**

У 16-17 нумары „Нашай нівы" за 1910 год у рубрыцы „З Беларусі і Літвы" паявілася інфармацыя аб Супраслі. Аўтар падпісаны літарай І. напісаў: „Мястэчка Супрасль Гродзенская губерня, Беластоцкага павета. У нашым мястэчку апрача жыдоўскіх ёсць дзве хрысціянскія крамы. Таргуюць добра, даюць чысты тавар, справядлівую вагу і па прыступнай цане. У святочныя дні шмат збіраецца народу, то за пакупкамі, то Богу памаліцца. Дрэнна не толькі, што падвячоркаваць заходзяць не ў чайныя а ў карчмы, гдзе такія прыдаткі як гарэліца, у двая больш выкідаюць грошы чым уся яда варта". У гэтай жа рубрыцы паявілася інфармацыя аб Макаўлянах з Сакольскага павета, аўтарства Паўла Алексюка. Карціна жыцця гэтай вёскі ў карэспандэнцыі даволі панурая. Паслухайма аўтара:

„Макаўляны Гродзенскай губерні Сакольскага павету. У гэтай вёсцы жывуць беларусы, каторыя аб тым што належаць яны да вялікага беларускага народу хіба ніколі і не чулі. І не дзіва, веды ў карысць навукі паміж іх няма дык і сядзяць у цемнаце. Калі што і чутна аб макаўлянцах то толькі тое, што каго-колечы прыбілі або і на смерць затаўклі". Досыць часта на старонках „Нашай нівы" з'яўляліся карэспандэнцыі аб Беластоку. Наогул характарыстыка беластоцкага жыцця не мела нацыянальнага аспекту. Аднак нярэдка гаварылася ў іх аб польскай, жыдоўскай ці беларускай рэчаіснасці. Здаралася, што аўтары абмяжоўваліся да цікавых бытавых здарэнняў. Прыкладам такога тыпу публікацыі можа быць інфармацыя, змешчаная ў рубрыцы „З Беларусі і Літвы" ў 20 нумары „Нашай нівы" за 1910 год. Аўтар падпісаны псеўданімам Васіль Карр напісаў:

„У Беластоку. Год таму як гродзенскі губернатар закрыў у нас польскае музыкальна-драматычнае таварыства „Муза" за „противоправительственный и угрожающий общественному спокойствию характер деятельности". Праўленне гэтага таварыства падавала жалабу на пастанаўленне губернатара ў сэнат. Цяпер прыйшоў адказ, што жалаба астаўлена без наслецтва.

— Паміж жалезнадарожнымі станцыямі Кузніца і Саколка памёр у вагоне мешчанін горада Бельска Станіслаў Нявінскі. Вагон з нябожчыкам адчапілі ў Саколцы.

... У нас адкрыліся два новыя таварыствы ўзаемнага крэдыта і абароны ад здзеку над жывёлай.

— У в. Турасль Касцельна рабочаму пры каменёх порахам адарвала два пальцы на правай руцэ".

У такім жа стылі, увагі для цікаўнасцей утрымана інфармацыя ў гэтай жа рубрыцы з Супраслі. Яе аўтар падпісаны Юльян М-ч напісаў:

„М. Супрасль Гродзенская губерня Беластоцкага павету: Мелі мы тут добрага доктара А. К-го, што шырыў між людзей навуку і прасвету, але не ўсім гэто спадабалася і вось гаспадары тутэйшых фабрык адказалі яму мейсцэ.

— У Супрасль цяпер стало шмат наяжджаць дачнікаў, бо тут пекная і здаровая аколіца, укруг мястэчка вялікі сасновы бор.

— Адзін селянін наараўшыся, заехаў вячэраць у карчму, ажно нехто зняў з плуга калясо. Прыйшлося і ў карчме заплаціць і новае калясо дарабляць.

— Каля самога мястэчка нашага ёсць ваколіца Дубавікі: вось ставілі там крыж, дык на гэтакі фэст адзін з сялян закупіў чатыры вёдры гарэлкі! Сабралася да яго шмат гасцей — мужыкоў і паноў, адны лакталі гарэлку, іншыя каньяк і віно. Пасля гэтакага пачастунку не дзіва, што ўзнялася лаянка і прычэпкі адных да другіх. Вось як адсвяткавалі пастаноўку знака Хрыстова".

З вышэйпрыведзенага тэксту відаць, што карэспандэнты „Нашай нівы" кіраваліся не толькі болем і плачам, а смехам ды іроніяй. Такія схільнасці сведчаць аб тым, што валодалі яны ўласцівымі прыёмамі добрай публіцыстыкі.

**Алесь Барскі**

# Святы ў час бежанства

— Людзі ў Арлоўцы добрыя і зычлівыя былі. Перад Божым Нараджэннем прынясілі нам бульбу, буракі, муку, дык і святкаваць можна было, — кажа Адам Майсяюк, які ў бежанства адправіўся з Заблудава, а зараз жыве ў Гайнаўцы. — Старэйшая моладзь хадзіла калядаваць з гвяздаю, а меншыя толькі пад вокнамі спявалі, за што і цукеркі атрымоўвалі.

Адам Майсяюк нарадзіўся ў 1908 годзе ў Заблудаве, дзе і выхаваўся, а ў бежанства падаўся разам з бацькамі Канстанцінам і Верай і сям'ёю дзядзькі Барыса Майсяюка.

— Увесь час ажно да канца ехалі мы на фурманках, а размясцілі нас у вёсцы Арлоўка, што на памежжы Беларусі і Украіны. Паколькі хата была пустая, у адным доме затрымалася апрача нас і дзядзькі яшчэ адна сям'я. Адразу памагалі нам мясцовыя людзі, якія прыносілі харчаванне, а пасля сталі мы апрацоўваць агарод і бацька крыху працаваў. У 1917 годзе бацьку забралі ў армію, а ў наступным годзе загінуў на фронце. У тым жа годзе памерла таксама і мама і я застаўся з дзядзькам Барысам. Каб зарабіць на жыццё, дзядзька працаваў на будове і памагаў мясцовым гаспадарам, хаця жылі яны скупавата. Я крыху хадзіў у школу, але паколькі часта мяняліся ўлады і было бяспраўе, многа і вучобы гэтай не было, — расказвае Адам Майсяюк. — Калі набліжаліся Каляды, дык рыхтаваліся хто як мог. Хто працаваў, то мог нешта купіць, хаця і дарагое ўсё было. Тым, якія не мелі працы памагалі мясцовыя, хаця і ў іх не пераліваласся. У сям'і майго дзядзькі, з якой я святкаваў, на вячэру перад святамі, паколькі памятаю, куцця была, грыбны борш, бульба, буракі і кампот з груш і яблык. Галодныя ад стала не адыходзілі. Пасля хадзілі і ў невялікую царкоўку, але людзі, якія жылі далей, не прыязджалі ноччу, бо баяліся, што могуць затрымаць банды, якіх тады многа было. Ёлкі не было, але і лесу паблізу хіба не было. Калядаваць хадзілі мы з мясцовымі. Старэйшыя, якія хадзілі з намі, заходзілі ў хаты і давалі ім грошы за калядаванне, а мы пад вокнамі спявалі. На харчаванне не звярталі ўвагі, цешыліся тым, што прыносілі святы. Перазімавалі там некалькі разоў, а калі паявіліся лістоўкі, што трэба вяртацца ў Польшчу, бо бальшавікі расстрэльваць будуць, дык у 1922 годзе зноў на фурманцы прыехалі назад у Заблудаў.

**Аляксей Мароз**

# Каму служыць крама?

У Кузаве працуе спажывецка-прамысловая крама, якой уладальнікам з'яўляецца Тамара Н. з Бельска-Падляшскага.

Крама акуратна абсталявана і забяспечана таварамі, хаця цэны тут вышэйшыя, чым у Чаромсе. Вядома, вёска „на бязлюддзі”, дык прадпрымальнік рашыў улічыць кошт транспарту ў цану тавару. Жыхары вёскі прывучыліся да гэтага, бо разумеюць, што за дабрадзейнасць у рыначнай эканоміцы трэба плаціць. А дабрадзейнасцю пані Тамара лічыць тое, што ў вёсцы краму арганізавала, як і тое, што час працы прадаўшчыцы прыстасавала да патрэб жыхароў Кузавы.

Ад сёмай гадзіны зранку да дваццаць першай увечары (з перапынкам ад адзінаццатай да пятай пасля абеду) можна забяспечвацца таварамі ў кузаўскай краме.

Такі парадак даволі выгадны сялянам у летні час, зважыўшы на працу ў гаспадарцы. Аднак зімою, на маю думку, такое непатрэбнае. Бо кожны амаль цэлымі днямі прабывае ў хаце і неабходныя справункі зробіць у дзень.

З назірання магу сказаць, што такая сістэма працы крамы спрыяе толькі аматарам піва і прадпрымальніку.

Звычкай выпівох сталася спажыванне піва ў краме або на яе прыступках, як і тое, што гуртам праседжваюць да позніх вячэрніх гадзін (неаднойчы да дзесятай ўначы а можа і даўжэй).

Прадаўшчыца не адважыцца „выпрасіць” з памяшкання „сваіх кліентаў” (выпівох, разумеецца), калі прыйдзе час закрываць краму. Ды і хто яе паслухае!

Некаторыя кузаўцы называюць сваю краму „начным рэстаранам”. А вядома, што ў такіх памяшканнях можна пачуць. Бульварная гаворка, нецэнзурныя словы і Бог ведае што яшчэ. І жанчына мае гэта ўсё выслухоўваць?! Аж вушы вянуць! Каму ж тады скардзіцца? Прадпрымальніку, які дбае за прыбытак ад піва ці старажам грамадскага парадку, якія тут з'яўляюцца час ад часу?

Зараз няцяжка зразумець, каму служыць кузаўская крама. І таму свой допіс канчаю сумнай рэфлексіяй як і пытаннем: калі прадпрымальнік не спраўляецца са сваімі абавязкамі, а ахоўнікі правапарадку не прытрымоўваюцца законаў, мо адказныя чыноўнікі мясцовага самаўрада вырашаць гэтую галаваломку?

**Уладзімір Сідарук**

# Накарміла

Прачытаў я так званую легенду пяра Ірэны Курылы з Міхалова п.з. „Вавала са шведам” („Ніва” н-р 46) і задумаўся: ці сапраўды нашы продкі, і асабліва „прыгожага полу”, былі лютыя горш дзікіх звяроў, што замест накарміць галоднага і знішчанага вайной чалавека, — хай ён быў і з варожага лагера, але ўсё ж такі чалавек, як мы ўсе, — яна абліла яго кіпятком калі той галодны і змучаны прыдрамнуў пры цёплай печы ў якой пёкся хлеб. Па танальнасці легенды аўтарка сваю папярэдніцу стараецца ўчыніць гераіняй, але за што? За цынізм, варварства, садызм толькі хіба, бо іншага і карыснага я ў гэтай легендзе не бачу. Падумаць толькі: на соннага і галоднага чалавека напасці з саганом вару; ці за гэта тая „гераіня” не смажыцца ў вечным пекле?.. Шчасце, што шведы „Ніву” не чытаюць.

Прыведзеная ў легендзе падзея мела месца пры шведскім „патопе” ў 17 стагоддзі, калі інтрыгі каралёў і розных панкоў прывялі да вайны між Польшчаю і Швецыяй. І не віна гэтага простага шведскага салдата, што ён папаў між молат і накавальню і мусіў выконваць чужыя загады і не па сваёй волі ісці на смерць. Калі разбілі яго часць, ён блукаў па чужым краі, дзе толькі вецер выў па пустых вёсках, і калі галодны трапіў у хату, дзе рыхтаваўся хлеб, ён прыгражаючы паказаў, каб накарміць яго. І каб тая бабуля накарміла яго, ён мо і пайшоў бы сваёй дарогай без злых намераў. У той час хадзілі і свае банды, якія не лепшыя былі ад акупантаў, а мо і горшыя.

У паляўнічых ёсць правіла: калі заяц нерухома стаіць на сваіх лапках, па ім нельга страляць. І ці наш просты беларус у кожнай вайне не мог апынуцца ў сітуацыі шведа і галодны папрасіць хлеб у палячкі, немкі, фінкі ці кацапкі, паказваючы на свой галодны рот з пагрозаю... І каб яна абліла яго кіпятком, дык нам, а асабліва ж яго роднай маці, сэрца парвалася б ад крыўды і знявагі; гэта не жарты.

**Мікалай Панфілюк**

Адгалоскі

# Рак палез уперад

Калі з'явіліся мае крытычныя заўвагі наконт карэспандэнцый Мікалая Панфілюка, той вельмі абурыўся ды напісаў, што я ні ў чым не разбіраюся і толькі трымаю з камунаю. Сапраўды, скажу так: птушка ў сваё гняздо не паскудзіць і я не буду.

Аднак Панфілюк добра ведае, што сам выпісваў і цяпер чаўпе не ведаючы што і абвінавачвае іншых. Возьмем для прыкладу ліст, які друкаваўся ў „Tygodniku Białostockim” № 24 ад 28 красавіка 1990 г. У ім сп. М. Панфілюк сардэчна дзякаваў рэдактару Кпышатафу Міку за апублікаванне артыкула „Wyznawcy niejednego Boga”. Далей кляйміў ён „Ніву” і БГКТ ды ўсіх яго дзеячаў, пішучы наступным чынам: „A skomunizowana «Niwa» pod dyktando partii i jej pochlebców zawsze na pierwszej stronie wychwalała różnych sekretarzy partii, naczelników gmin i ich poplecznikow, łgając w żywe oczy o ich «bohaterstwie» za zgodą też skomunizowanego i dziś już skompromitowanego BTSK. Ciężko im rozstać się ze stalinizmem; muzeum białoruskie w Hajnówce, którego budowa już jest na ukończeniu, ma nosić w nazwie te znienawidzone słowa — «ruchu rewolucyjnego»”. Далей пісаў аб прыбытанні Чырвонай Арміі ў Дубічах і прыходзе немцаў, якія былі „uprzejmi, uśmiechnięci, zadowoleni, rozdawali cukierki, czekolady”, а таксама пра мясцовых актывістаў, якія „łowili bezbronnych polskich żołnierzy z kampanii wrześniowej i zdzierali z nich odzież”. У гэтым жа лісце яго аўтар заяўляў: „I ja, jako Białorusin, który był «na wozie i pod wozem», tylko w «Solidarności» widzę ratunek naszej tożsamości i dumy”.

Не ўдалося Мікалаю Панфілюку звязацца з салідарнікамі, хаця тады ён іх так моцна расхвальваў. А потым прыйшла чарга на крытыку „Салідарнасці” на старонках „Нівы” ды пахвальныя словы ў адрас крытыкаваных раней дзеячаў, у тым ліку і ніўскіх вучыцеляў („Ніва”, № 52, стар. 11 — „Прабудзіцеся, дарагія”). Крытыкуючы іншых, варта памятаць таксама аб напісаным раней сабою.

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, у апошні час мне часта сняцца падобныя сны. Заўсёды справа датычыць нейкіх цягнікоў, чыгункі. І заўсёды мы едзем кудысьці з унучкай, а на нашай дарозе паяўляюцца перашкоды. То мы не паспелі на цягнік, які ўжо адышоў, то выйшлі на перон на нейкай станцыі і ўвайшлі ў будынак вакзала, а цягнік ад'ехаў, то губілі свае рэчы.

А вось цяпер ізноў прыснілася мне, што мы едзем з унучкай цягніком. У нас вельмі многа рэчаў. Мяне пужае перасадка, якую мы павінны мець неўзабаве.

І вось цягнік затрымаўся. Я пачынаю выгружваць свае рэчы і пераносіць іх у іншы цягнік, які ўжо стаяў на суседніх рэйках і чакаў пасажыраў.

Частку рэчаў я паспела выгрузіць з таго цягніка, якім мы прыехалі, і перанесці ў другі цягнік, як той другі цягнік крануўся і ад'ехаў з нашымі рэчамі. А Божа мой, як жа я іх цяпер знайду?

Агарнуў мяне страх: і самі мы ж не паспелі перасесці. Я вельмі перажываю, вярнуўшыся ў наш першы цягнік да ўнучкі. Цягнік па-ранейшаму стаіць, дзе затрымаўся.

Раптам у вагон уваходзіць нейкі мужчына і дае мне адзін мой чамаданчык, вельмі прыгожы. Гэта быццам бы ён забраў яго з таго другога цягніка, калі ўбачыў, што мы не паспелі сесці. Аднак жа мяне мучыць думка пра тыя рэчы, якія засталіся там. Як жа я іх знайду?..

**Яніна**

Яніна! Несумненна, гэтыя сны сведчаць пра нейкі непакой, які вярэдзіць тваю душу. Быць у цягніку — значыцца будзе нейкая сумная справа. Можа быць нейкая страта (маёмасці, здароўя або грошай), а будзе яна датычыцца ў нейкай ступені цябе і ўнучкі.

Аднак жа аднекуль прыйдзе дапамога, якая часткова выратуе цябе. За гэта гаворыць той мужчына, які задбаў пра твой чамаданчык і перадаў яго табе.

**Астрон**

# Найлепшыя

Нядаўна я прачытаў у „Ніве” (н-р 51) аб тым, што Гукавічы, Карыцкіса, Дубічы-Царкоўныя, Старое Беразова, Махнатае і Стары Корнін — гэта вёскі, адкуль гаспадары прыносяць у малачарні малако найвышэйшага класа! Якраз у гэтых вёсках многа маладых гаспадароў, у якіх больш кароў і свае халадзільныя рэзервуары.

Вось яны: Мікалай Раманюк і Сцяпан Іванюк з Гукавічаў; Андрэй Завадскі, Васіль Івацік і Аліна Каліноўская з Карыцкісаў; Ян Аксэнцюк і Юрый Тамашук са Старога Корніна; Мікалай Галёнка, Міхал Германовіч, Ян Прынініч, Анатоль Герасімюк, Мікалай Далінскі і Віктар Лаеўскі з Махнатага ды Мікалай Кубайчук і Міхал Кузька са Старога Беразова. У Дубіцкай гміне Раённаму малочнатаварнаму кааператыву ў Гайнаўцы найбольш высокаякаснага малака прадаюць Яўген Галашэвіч з Ягаднікаў, Ян Корч з Тафілаўцаў і Пётр Мінюк з Істока. **(гай)**

# У аўтарамонтнай станцыі

Гмінны кааператыў у Гайнаўцы па вул. Бельскай вядзе Аўтарызаваную аўтарамонтную станцыю (АСА). Апрача рамонтаў аўтамашын, у тым ліку грузавікоў „Люблін”, тут праводзіцца мантаж газаўстаноўкі, праверка тэхнічнага стану аўтамабіляў. Гайнаўская АСА падпісала дагавор на аўтарызаваны рамонт легкавых аўтамабіляў маркі „Daewoo” і мае да іх усе запасныя дэталі.

У АСА ў Гайнаўцы працуюць вопытныя аўтарамонтнікі, м. інш. Васіль Федарук, Юрка Шарашавец і Мікалай Плева (кіраўнік АСА).

**(гай)**

# Пейзажы Ю. Вуйціка

У Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая 45 адкрылі фотавыстаўку Юркі Вуйціка з Гайнаўкі. Экспазіцыя складаецца з 32 каляровых здымкаў самых маляўнічых куточкаў Гайнаўшчыны. Паглядзець яе можна кожны дзень (апрача нядзеляў) ад 10 да 18 гадзіны. **(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Prenumerata:*

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 lutego 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Малюнак Алега КАРПОВІЧА

# Хваёвы напой для душы

Пайшоў Сцёпа па ёлачку. Ды не па адну. І не ў свой лес пайшоў, бо яго ў яго ўжо няма. Прадаў. Так сказаць, матэрыю ў дух, spiritus, значыць, замяніў. Ды тыя елкі і хвойкі і так з часам у паветра паляцелі б — адны згараць, другія пабудуць домам ці мэбляй, а ці год трыццаць, ці сто — якая розніца? — і так у тло ўсё зменіцца. Ну, як і сам чалавек. Так мяркуюць і сябрукі Сцяпанавы, бо пра што ж, як вы думаеце, людзі, за чаркай гаворыцца? Пра вечнае. Бабы асабліва, дурное племя, слухайце! — ідзе размова філасафічная, поўная зместу не для ўсіх зразумелага. На навуковым жаргоне і, вядома, паводле слоўніка адмысловага. Разумеецца кожны дыскутант у паўслове. Адно глянь, колькі сэнсу мае такое адно слова на п. „А я гэта ..!" — „Як я цябе ..!" — „О я ..., якое гэта цудоўнае!" — „... ад мяне!" — „Але ж ён ..., як малы самаходзік!" — „... як свіння" — бачыце, усё тут ёсць: і захапленне, і ярая злосць, і вобразнае выражэнне розных прыкмет... Ну, гэта толькі маленькі фрагмент шырэйшых мовазнаўчых разважанняў, вартых найменш доктарскай дысертацыі. Багаты лексікон, багатая семантыка, багатае словаўтварэнне... Увогуле — жывая мова, пра якую марыць масціты мовазнавец. Бо што тая мёртвая латынь!..

Ну, кіньма навуку, давайце вернемся да Сцёпы, які пайшоў у казённы лес па ёлачку. У пушчу, значыць, парк цяпер, якое элементам ёсць і елка, і зайка, і іншы жыхар разам з яго граматыкай і наровамі.

— Не забірай ты нас, Сцёпа, з нашага дому, — папрасіліся елкі беларускім голасам. — Нам тут добра, вырасцем, кіслародам адорым Еўропу разам з тваімі лёгкімі зялёнымі, перакуранымі „Экстра-моцнымі"... Мы ж маленькія яшчэ, а вось станем вялікімі, карабельнымі, або на мэблю нас, на замежную... Але ж пакуль што, то пажывем удоваль, жыццём нацешымся...

— А я вас ..., — адказаў Сцёпа таксама па-нашаму. — Што там вам да маіх лёгкіх! Кіньце ... лухту, ..., якое я чую што і раз у ... тэлевізары, куяма, зялёныя ... Піць, ..., хочацца, што ... дастаю ўжо.

— Сцёпа, даражэнькі, усё ж нас не сячы. Мы табе аддзячымся!

— А чым жа такім, ... ёлачкі?

— Навучым цябе гнаць хваёвы алкаголь. Нават і з нас; лепш страціць крыху крыві, чым усё жыццё, праўда, сястрыцы?

— Ігы? Не лжэце? Але, чакайце, ці я гэта чую, ці мне здаецца... То ж ... ёлачка гаварыць, ..., не можа...

— Не, Сцёпа, можам, сам жа чуеш. Ну, нахіліся да майго камля, — варухнула голлем старая елка-маці, зараз табе скажу. А зрабі ты, Сцёпа, так...

Пра рэцэпт на хваёвую самагонку можаце, шаноўныя чытачы-аднадумцы, папытацца ў Сцёпы з Гайнаўскае гміны. Больш сказаць не магу, бо палічылі б „Ніве" гэта за алкагольную рэкламу, а забарона такое рэкламы пакуль яшчэ не адклікана Сеймам Рэчы Паспалітай. Іншая справа ў Беларусі, там „на свой ужытак", як дазволіў прэзідэнт, можаце гнаць што хочаце. Асабліва такія экалагічныя рэцэпты — незвычайны скарб у Еўропе на парозе XXI стагоддзя.

**Міра Лукша**

Фрашкі пра нашых

## Ігрок

Галоўны з цымбалістаў пакінуў калектыў,
А ж там салістам меў быць пажыццёва,
І ў іншы моцны гурт з фанфарамі адбыў.
І там, у новай уніі, пазволілі ўзяць слова,
Бо ўсюды маладыя цымбалісты ў модзе,
З надзеяй інструменты ім уручаюць
Старыя музыканты, зграныя ў народзе.
Стоп! З гэтым цымбалістам зноў прайграюць!
Куды ні ўступіць, там усё ідзе на спад,
Анёл ён зусім чорны любое кампаніі,
Хоць, весь у хмарках, аздобіць кожны ўрад
І кожнае менш-больш талковае сабранне.

**Вандал Арлянскі**

# Кароткі курс параноі

**З Новага Свету**

*(прэс-агляд)*

На кангрэсе Амерыканскай Асацыяцыі Славянаведаў (AAASS), які прайшоў у Бока Ратон, Фларыда, было ўсяго 1 300 удзельнікаў. Значнай перашкодай правядзення кангрэсу стаўся ўраган „Жорж", дзеля якога шмат хто не здолеў прыехаць на кангрэс.

Славянам усюды вецер у вочы. Аднак наймацней дзьме беларусам. У беларускай сесіі ўзяло ўдзел (толькі — аж?) 16 асобаў.

* * *

Наш разумны беларускі народ перастаў думаць. *(Настальгічна-аптымістычная выснова Івонкі Сурвіллы, старшыні Рады БНР).*

Значыць, разумнік дацяміў — Амерыка за яго думае! А мы людэ тэмны, нам трэба грошы тай хорчы хорошы. Ну і шчодры манарх прыгадзіўся б.

* * *

Шукаю нашчадкаў княскіх дынастый, якія-б маглі прэтэндаваць на вялікакняскі пасад. Мы маем звесткі, што князі Радзівілы жывуць у Амерыцы.

Алесь Чорны

Сябра маладзёвай нацыянал-патрыятычнай манархічнай арганізацыі „Ліцвіны", Гомель.

Дык хто сказаў, што народ не думае? Прыязджай, браток, да нас, у суседнюю манархію. На такі пост у нас прэтэндэнтаў процьма. Куды Радзівілавым нацыянал-пярэкрутам да іх.

І піць будзем!
І гуляць будзем!
Нацыянал-патрыётак
Цалаваць будзем!
З манархічным салютам!

**Сідар Макацёр**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. блізкі сямейнік, 4. сямейнае найменне, якое дадаецца да асабістага імя, 6. конскі корм, 7. сфера дзейнасці, 9. абрэвіятура арганізацыі Пятра Крука, 11. П'ер, французскі паэт (1780—1857), 12. гара ў Бельгіі (694 м.), 13. абрэвіятура дзяржавы Біла Клінтана, 15. парванае старое адзенне, 17. мяккі метал серабрыста-белага колеру, важны элемент хімічных угнаенняў, 18. французская была ў 1789 годзе, 19. скандынаўская дзяржава.

**Вертыкальна:** 1. старэйшы ў ЗША універсітэт у Кембрыджы каля Бостана, 2. паслядоўнік стаіцызму, 3. самката, 4. каштоўнае рэчыва з пераліві-стай афарбоўкай, унутраны слой некаторых ракавін, 5. кантынент паўднёвага паўшар'я, 6. нагляд, 8. незвычайна таленавіты тварэц, 9. кустовая расліна з блакітна-ліловымі пахучымі кветкамі, 10. даўняя назва фінскага горада Турку, 14. лёгкае рассоўнае крэсла для адпачынку паўлежачы, 16. вонкавыя абрысы корпуса судна, 17. урачыстая вячэра напярэдадні Каляд.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 48 нумара**

**Гарызантальна:** Сурмач, Палтава, лоцман, серабро, нарцыс, архант, убоства, аматар, азіятка, злітак.

**Вертыкальна:** апаска, Аларых, Харбін, салон, рыцар, араты, амоній, цытата, стакан, Ромул, актэт, турак.

Рашэнне: **Сакрат Яновіч.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока і **Міхалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Два яўрэі вяртаюцца з Ізраіля. На польскай мяжы таможнік пытае іх, ці маюць нешта за што трэба плаціць мытную аплату.

— Нічога не маем, — адказваюць турысты.

— Адкрывайце чамаданы!

З кожнага чамадана мытнік выцягвае па пяць арыгінальных бутэлек з каньяком.

— А гэта што? — пытае.

— Гэта цудатворная вада з іерусалімскай крыніцы.

— Мушу гэта праверыць, — гаворыць мытнік.

Адкрывае бутэльку, прабуе напой і заяўляе:

— Гэта арыгінальны класны каньяк.

— Глядзі! — звяртаецца адзін яўрэй да другога. — Зноў здарылася нам вялікае цуда!

* * *

Сужонства выбралася на адпачынак. Першай раніцы муж устаў, а жонка, працягваючыся ў ложку, пытае:

— Якое сёння надвор'е?

— А адкуль мне гэта ведаць? — адказвае муж. — За акном туман і нічога не відаць.

* * *

Амерыканскі журнал моды раіць сваім чытачкам: „Жанчына, якая набліжаецца да шасцідзесяткі, павінна адчуваць сябе так, бышцам бы мела пяцьдзесят гадоў, выглядаць на сорак, а апранацца, быццам бы ёй трыццаць."